# КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ І КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Грамадскага аб’яднання “Міжнародная асацыяцыя беларусістаў”
і Грамадскай арганізацыі “Беларускае таварыства дружбы і
культурнай сувязі з замежнымі краінамі”

## ЗМЕСТ



• № 11–12 (47–48) • ЛІСТАПАД-СНЕЖАНЬ • 1999 • МІНСК • БЕЛАРУСЬ •

Заснавальнікі:
**Грамадскае аб'яднанне "Міжнародная асацыяцыя беларусістаў",
Грамадская арганізацыя "Беларускае таварыства дружбы
і культурнай сувязі з замежнымі краінамі"**



Адрас рэдакцыі:
**Рэспубліка Беларусь, 220050, Мінск,
вул. Рэвалюцыйная, 15, Камітэт ГА "МАБ"**

Тэлефон: **+375 (017) 220 76 04**
Факс: **+375 (017) 220 93 50**

E-mail:
**mab@lingvo.minsk.by**

Электронны варыянт у InterNet:
**http://www.lingvo.minsk.by**

*На першай старонцы вокладкі —*
**«Сінод беларускіх святых». У іх ліку — Ефрасіння, ігумення Полацкая, Кірыл, епіскап Тураўскі, Афанасій, ігумен Брэсцкі, заслужаныя перад беларускай культурай. Рэпрадукцыя з паштоўкі 1995 г.**

Бюлетэнь выдаецца і высылаецца толькі тым сябрам ГА "МАБ", якія ўнеслі складкі.

Памер складак у месяц (з 2000 г.): у Беларусі — **350 тысяч рублёў**,
у краінах СНД — **2 USD**, Цэнтральнай Еўропы — **3 USD**,
Заходняй Еўропы, Азіі, на іншых кантынентах — **5 USD**.

Перыядычнасць выхаду — **1 нумар у месяц**.

Мовы выдання — беларуская і ў перспектыве — англійская, руская.

Паведамленні аб уплаце складак просім дасылаць на адрас рэдакцыі.

Складкі просім пераводзіць аднаму з заснавальнікаў бюлетэня —
**Камітэту ГА «Міжнародная асацыяцыя беларусістаў».**

Банкаўскія рахункі:
**рублёвы і валютны —
3015000005287 у Мінскім абласным упраўленні
АСБ "Беларусбанк" г. Мінска, код 807.**





*Ян Запруднік (Нью-Йорк)*

## РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСАЗНАЎЧЫХ ДОСЛЕДАЎ НА ЗАХАДЗЕ (ПАЧЫНАЮЧЫ З 1945 г.)

**Ян Запруднік** — доктар гісторыі, публіцыст, паэт, крытык, грамадскі дзеяч беларускай дыяспары ў ЗША. Аўтар многіх прац па гісторыі Беларусі, у тым ліку энцыклапедычнага даведніка на англійскай мове.

**Акрэсленне тэмы.** Дазвольце мне коратка акрэсліць тэму і яе межы. Тэрмін "доследы" я буду ўжываць у гэтым артыкуле вельмі часта, прычым ён будзе азначаць не толькі вынікі доследаў, але таксама і магчымасць атрымаць інфармацыю пра Беларусь. Па некалькіх прычынах я абмежаваў сваё даследаванне тэмы і разглядаю тут толькі працы, надрукаваныя па-англійску, па-нямецку і па-французску. Гэтыя тры галоўныя мовы выкладаюцца ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце ў Мінску. Адначасова ў тым жа самым універсітэце існуюць тры заходнія даследчыя цэнтры: Інстытут нямецкіх доследаў, Цэнтр амерыканскіх доследаў і Французска-беларускі факультэт палітычных і эканамічных навук.

Зразумела, ёсць працы пра Беларусь і на іншых заходніх мовах. Распад Савецкага Саюза быў занадта важнай падзеяй, каб не прыцягнуць увагу ўсяго свету да яго кардынальных вынікаў, адным з якіх з'яўляецца нараджэнне незалежнай Беларускай дзяржавы. Аднак па геапалітычных, эканамічных і палітычных прычынах, асноўная колькасць даследаванняў пра Беларусь пісалася і пішацца на трох вылучаных мною мовах.

Часавыя рамкі майго доследу абмяжоўваюцца перыядам пасля Другой сусветнай вайны, бо да гэтага перыяду Беларусь на Захадзе была амаль невядомая. Адзін з прыхільнікаў (*) нью-йоркскага Беларускага інстытута навукі і мастацтва, прадстаўнік Лігі супрацьдзеяння доктар Ёзаф Ліхтэн, які нарадзіўся ў Польшчы, расказаў нам у сярэдзіне 50-х гг., як у 1940 г. да яго звярнуўся чыноўнік Дзяржаўнага дэпартамента, які шукаў хаця якіх агульных звестак пра Беларусь. Відавочна, што нават Бібліятэка Кангрэса не здолела яму ў гэтым дапамагчы. Сёння становішча ў гэтым плане значна змянілася ў лепшы бок. Калі я быў у адпачынку ў Фларыдзе сёлета, дык выбраўся ў аддзяленне Публічнай бібліятэкі г. Тампа, каб паглядзець, якую інфармацыю там можна знайсці пра Беларусь. Дружалюбны камп'ютэр выдаў мне спіс з 59 часопісных артыкулаў пра Беларусь. Там жа я высветліў, што толькі ў апошні час на англійскай мове былі надрукаваны 14 кніг, прысвечаных Беларусі калі не цалкам, дык часткова. Адзін з маіх сяброў надоечы расказаў мне пра тое, як падобную інфармацыю пра Беларусь выдаў яму камп'ютэр у г. Энкарыдж (штат Аляска). У Камп'ютэрным бібліятэчным он-лайнавым цэнтры можна знайсці да 270 адзінак доследаў,

назва якіх пачынаецца са слова “Беларусь” у яго розных варыянтах. Інтэрнет перапоўнены інфармацыяй пра бягучыя падзеі ў рэспубліцы. Адчайныя намаганні прэзідэнта Лукашэнкі адбудаваць разваленую савецкую дзяржаву і яго цяперашнія спробы ўмяшацца ў вырашэнне косаўскага канфлікту, — усё гэта абуджае цікавасць свету да краіны, вядомай дасюль як “ціхая” рэспубліка.

Хаця пра Беларусь цяпер маса найноўшай інфармацыі, колькасць грунтоўных манаграфій на трох пералічаных мовах даволі сціплая. Навуковая беларусістыка — гэта пераважна артыкулы, змешчаныя ў перыядычных выданнях (прычым некаторыя з іх ужо не выдаюцца), такіх, як “Беларускі агляд” (“Belorussian Review”) (яго выдаваў у Мюнхене фінансаваны амерыканцамі Інстытут па вывучэнню СССР) або “Часопіс беларускіх доследаў” (“The Journal of Byelorussian Studies”) Англа-беларускага таварыства (ён перастаў выходзіць у 1988 г.). У такіх выданнях, як “Славянскі агляд” (“Slavic Review”), “Расійскі агляд” (“Russian Review”), “Славянскі і Усходне-Еўрапейскі часопіс” (“Slavonic and East European Journal”) ды іншых вельмі мала сур’ёзных дыскусій па беларускіх пытаннях. Часопіс “Усходняя Еўропа” (“Osteuropa”) — адзінае тут выключэнне. У савецкі перыяд беларускія доследы на Захадзе былі занядбаны па трох галоўных прычынах: 1) слабасць нацыянальнага дысідэнцкага руху на Беларусі і недахоп інфармацыі пра яго; 2) малая колькасць навукоўцаў беларускага паходжання на Захадзе; 3) агульны руса-цэнтрызм заходняй саветалогіі. На жаль, дасюль няма поўнага бібліяграфічнага даведніка прац на беларускую тэматыку на галоўных заходніх мовах. Такі даведнік складаецца цяпер у Беларускім інстытуце навукі і мастацтва ў Нью-Джэрсі, але да яго выхаду ў свет як кнігі пройдзе яшчэ год ці два. Пад час падрыхтоўкі гэтага артыкула я склаў бібліяграфію артыкулаў і паведамленняў пра Беларусь на англійскай, нямецкай і французскай мовах за апошнія два гады. Гэта — свайго роду дадатак да бібліяграфіі, змешчанай у маёй кнізе “Гістарычны слоўнік Беларусі” (“Historical Dictionary of Belarus”), выдадзенай у мінулым годзе выдавецтвам “Скэркроў Прэс”.

Працы пра Беларусь на заходніх мовах можна падзяліць на дзве агульныя катэгорыі: на тыя, што былі напісаны да абвяшчэння незалежнасці Беларусі, і тыя, што з’явіліся пасля яго. На першыя моцны ўплыў аказала атмасфера “халоднай вайны”. Аўтарамі ранніх англамоўных публікацый былі нядаўнія палітычныя бежанцы з Беларусі. Яны апісвалі, галоўным чынам, савецкі прыгнёт і камуністычную міфалогію, публікавалі забароненыя літаратурныя творы і прапагандавалі ідэю незалежнай дэмакратычнай Беларусі. Тэматыка іх прац была абумоўлена іх прафесійнай адукацыяй — большасць з іх былі гуманітарыямі. Адсюль і засяроджанасць на праблемах культуры. Спіс дзесяці найбольш грунтоўных манаграфій, надрукаваных да 1991 г., паказвае, што сем з іх прысвечаны або літаратуры, або мове (1). Пра эканамічныя, дэмаграфічныя і сацыяльныя праблемы было напісана няшмат. Хаця БССР мела ўласнае Міністэрства замежных спраў і ўласнага прадстаўніка ў ААН, яе замежная палітыка ўвогуле не даследавалася, бо, як мы ведаем, такой папросту не было. Гэтыя пытанні былі выключнай прэрагатывай цэнтральных структур. Сітуацыя змянілася пасля аб-

вяшчэння незалежнасці ў 1991 г., якой бы ўмоўнай гэтая незалежнасць не здавалася на сённяшні дзень.

Пачынаючы з 1991 г., рэспубліка з'яўляецца незалежным суб'ектам на міжнароднай арэне, пашырае свае кантакты з іншымі дзяржавамі і вымушана выбіраць сабе саюзнікаў і займаць пэўныя пазіцыі. Гэта, натуральна, абумовіла павелічэнне колькасці спецыялістаў па Беларусі. Даведнік Асацыяцыі амерыканскіх славістаў за 1997–1999 гг., напрыклад, налічвае 109 імёнаў членаў гэтай арганізацыі, якія вызначылі Беларусь як прадмет сваёй зацікаўленасці. Важнымі спрыяльнымі фактарамі ў развіцці беларускіх доследаў былі таксама ўсё большы культурны абмен паміж Беларуссю і Захадам, а таксама перасяленне "новых беларусаў" у заходнія краіны. З гэтым супала і тое, што за апошнія тры гады ў Францыі, Англіі і Германіі былі заснаваны ажно тры новыя беларусазнаўчыя квартальнікі. Разам з "Беларускім аглядам" (якому ўжо дзесяць гадоў), яны забяспечваюць чытачоў інфармацыяй пра падзеі і тэндэнцыі развіцця ў Беларусі. Пашыраецца навуковы і адукацыйны абмен. Лонданскі часопіс "Беларуская хроніка" ("Belorussian Chronicle") паведаміў, напрыклад, у апошнім нумары: "Універсітэты зараз прымаюць усё большую колькасць студэнтаў з Беларусі, і гэткім жа чынам павялічваецца колькасць англійскіх студэнтаў, што накіроўваюцца ў Беларусь" (2).




Бібліяграфія доследаў пра Беларусь за апошнія два гады, якую я склаў, карыстаючыся англійскімі, нямецкімі і французскімі крыніцамі (больш за 220 назваў), выяўляе не толькі павелічэнне колькасці доследаў, але і пэўную тэматычную абмежаванасць. Артыкулы і аналізы апісваюць, галоўным чынам, палітычны ўздым у рэспубліцы, законатворчыя пытанні, эканамічны стан, вынікі Чарнобыльскай катастрофы, парушэнні правоў чалавека, дзейнасць нефармальных аб'яднанняў, пытанні знешняй палітыкі, слабую нацыянальную самасвядомасць беларусаў, часам — праблемы нацыянальных меншасцей. З другога боку, беларускія літаратура і культура, гэтыя традыцыйныя выказнікі нацыянальных спадзяванняў, цалкам ігнаруюцца. Я мушу падкрэсліць, што жаданні і мары беларускага народа немагчыма глыбока зразумець без вывучэння яго культуры і сучаснай літаратуры. Каб даследаваць літаратуру, трэба, зразумела, ведаць мову, што з'яўляецца — і я гэта прызнаю — сур'ёзнай перашкодай. Да таго ж трэба дадаць, што пераклады на заходнія мовы беларускіх твораў не бездакорныя. Я маю на ўвазе, што многія з гэтых перакладаў (напрыклад, творы Васіля Быкава) рабіліся ў савецкі перыяд з рускіх перакладаў, і, як адзначаў сам аўтар гэтых тво-

раў, пацярпелі ад дадатковай цэнзуры: шматлікія спасылкі на нацыянальныя рысы беларускага характару і іншыя нацыянальныя своеасаблівасці былі выкраслены або, што яшчэ горш, заменены на тыпова рускія рысы. Іншая занядбаная тэма ў беларусазнаўчых доследах — роля нацыянальнай інтэлігенцыі. А доследы ў гэтым кірунку, калі б яны праводзіліся, значна дапамаглі б зразумець гістарычныя карані сучаснай беларускай дэмакратычнай апазіцыі. Што да беларускага нацыяналізму — яшчэ адной важнай, але занядбанай тэмы ў беларусазнаўчых доследах, — дык ён нарэшце пачаў прыцягваць да сябе ўвагу заходніх навукоўцаў. Добры агляд гэтага пытання быў зроблены, напрыклад, на кангрэсе Асацыяцыі па вывучэнню праблем нацыянальнасцей пры Гарымаўскім інстытуце Калумбійскага універсітэта, які адбыўся 16 красавіка гэтага года.

Наконт Беларусі ўсё яшчэ бытуюць трывалыя забабоны, і яны падмацоўваюцца недахопам доследаў. Адзін з такіх забабонаў датычыцца таго, што Беларусь, маўляў, — гэта бедная сялянская краіна, няздольная ўтрымліваць сябе эканамічна. Так, гэта праўда, што краіна цяпер перажывае эканамічны крызіс, падобны да такіх жа крызісаў у Расіі і Украіне. Аднак ёсць таксама неаспрэчныя эканамічныя і дэмаграфічныя факты, якія абвяргаюць міф пра Беларусь як пра сельскагаспадарчы закутак Усходняй Еўропы. Насельніцтва Беларусі на 70 працэнтаў — гарадское. Сельскагаспадарчая прадукцыя ў 1997 г. складала толькі 11,5 % ад валавога нацыянальнага прадукту краіны, у той час калі прамысловая вытворчасць склала 31,5 %, а паслугі — 35,6 % (3). Як і шмат у якіх іншых краінах свету, у Беларусі адсутнічаюць некаторыя прыродныя рэсурсы, але ў яе ёсць і шмат багаццяў, сярод якіх трэба адзначыць спрыяльнае геаграфічнае палажэнне ды высокі адукацыйны ўзровень насельніцтва. Што ж да эканамічных бедаў краіны, дык яны выкліканы не беднай прыродай, а дрэннай палітыкай, а таксама, калі зазірнуць глыбей, геапалітычным палажэннем краіны (праўда, гэты апошні пункт можа быць і спрэчны).

**Англамоўная беларусістыка.** Найстарэйшы цэнтр беларусазнаўчых доследаў — гэта заснаваны ў 50-х гг. нашага стагоддзя Інстытут па вывучэнню СССР, які месціўся ў Мюнхене і фінансаваўся амерыканцамі. Сярод перыядычных выданняў інстытута быў таксама і “Беларускі агляд”, восем нумароў якога выйшлі ў перыяд з 1954 па 1959 гг. Часопіс быў прысвечаны, галоўным чынам, вывучэнню пытанняў, звязаных з нацыянальнай палітыкай у Савецкай Беларусі, з акцэнтам на праблемах развіцця культуры, хаця даследавалася таксама і эканоміка, і палітыка камуністычнай партыі. Беларускія праблемы закраналіся і ў некаторых іншых калектыўных выданнях інстытута.

Другім цэнтрам беларусазнаўчых доследаў з’яўляецца лонданскае Англа-беларускае таварыства з яго выключна багатымі Беларускай бібліятэкай і музеем. З 1965 па 1988 г. таварыства выдавала штогоднік “Часопіс беларускіх доследаў” (The Journal of Belorussian Studies”), у якім друкаваліся грунтоўныя артыкулы пра дарэвалюцыйную Беларусь, прычым націск рабіўся на тэматыку культурнай спадчыны краіны. Штогоднік змяшчаў рэцэнзіі на кнігі, выдадзеныя

ў БССР, вёў хроніку беларускага культурнага жыцця, а таксама забяспечваў чытача выбранай бібліяграфіяй апошніх выданняў. Свае артыкулы ў штогодніку змяшчалі не толькі беларускія эмігранты, але і навукоўцы з Англіі ды іншых заходніх краін. Ужо пасля спынення выдання штогодніка ў 90-х гг. былі надрукаваны два тамы “Аказійных матэрыялаў” (“Occasional Papers”). Англа-беларускае таварыства працягвае сваю дзейнасць, хаця публікацый стала значна менш. З 1997 г. пачаў выходзіць штоквартальны часопіс таварыства “Беларуская хроніка” (“Belorusian Chronicle”), які дае панарамны агляд падзей, звязаных з англа-беларускімі дачыненнямі.




Нью-йоркскі Беларускі інстытут навукі і мастацтва, хаця і існуе ўжо з 1950 г., дасюль выдаваў свае працы пераважна на беларускай мове (сюды можна залічыць і 22 нумары яго “Запісаў”, што выходзяць нерэгулярна). З 1975 г. некаторыя матэрыялы ў “Запісах” пачалі друкавацца або па-англійску, або з рэзюме па-англійску. Часопіс прысвечаны амаль выключна разгляду гістарычных, палітычных і культурных праблем. Адзіная англамоўная кніга, выдадзеная інстытутам, — праца Вітаўта і Зоры Кіпеляў “Беларуская дзяржаўнасць: Артыкулы і бібліяграфія” (4). Вельмі важна, што ў кнізе падрабязна разглядаюцца ранняя этапы ўзмацнення беларускага нацыянальнага руху на пачатку XX ст., што прывяло да абвяшчэння ў 1918 г. Беларускай Народнай Рэспублікі, а пасля, у 1919 г., стварэння бальшавікамі БССР.

**Нямецкамоўная беларусістыка.** З усіх заходніх краін Германія заўсёды была найбліжэйшай да Беларусі як з геаграфічнага, гэтак і з гістарычнага пункту гледжання, а пачынаючы з 1991 г., стымулам развіцця нямецка-беларускіх дачыненняў сталіся і эканамічныя інтарэсы. Аднак існаванне Беларусі ў якасці незалежнай краіны — гэта пакуль што навіна для ўсіх іншаземцаў, у тым ліку і для немцаў. “Яшчэ і цяпер у нашай краіне няшмат вядома пра Беларусь”, — падкрэслівае нямецкі навуковец Райнер Ліндނер, які спецыялізуецца ў галіне беларускай гісторыі і палітыкі, — “і толькі нядаўна пачалося больш грунтоўнае вывучэнне беларускіх гісторыі, паліталогіі і мовазнаўства”. І сапраўды: даследаванне беларускіх пытанняў у Германіі (у меншай ступені ў Аўстрыі) цяпер пашыраецца. У мінулым годзе ў рамках Гётынгенскай працоўнай групы (Göttinger Arbeitskreis) былі створаны Цэнтр сучасных беларусазнаўчых даследаў. Яго кіраўнік — доктар Гайнц Тымерман з Федэральнага інстытута ўсходне-еўрапейскіх і міжнародных даследаў у Кёльне. Ён часта піша на беларускія тэмы. У сённяшняй Германіі існуе некалькі цэнтраў, якія збіраюць інфармацыю

пра Беларусь. Як сведчыць Астрыд Лорэнц з універсітэта імя Гумбальта ў Берліне, рэгулярныя агляды стану беларускай эканомікі друкуюцца Нямецкім інстытутам эканамічных доследаў пры Кільскім (Kiel) універсітэце, а таксама ў эканамічным інстытуце ў г. Гале. У якасці аб'ядноўваючай структуры для ўсіх цяперашніх нямецка-беларускіх праектаў і праграм сёлета будзе створана Нямецкая таварыства беларускай культуры, палітыкі і эканомікі. У сваю чаргу, сярод маладых беларусаў расце зацікаўленасць у вывучэнні нямецкай мовы, як гэта нядаўна адзначыў доктар Міхаель Стаак, дырэктар-заснавальнік Цэнтра нямецкіх доследаў пры Еўрапейскім гуманітарным універсітэце ў Мінску.

У 1998 г. група нямецкіх навукоўцаў пачала выдаваць выдатны штоквартальны часопіс "Навіны з Беларусі" ("Belarus-News"), які аналізуе развіццё падзей у Беларусі і дае найноўшую бібліяграфію матэрыялаў пра Беларусь, змешчаных у нямецкіх газетах і ў Інтэрнеце. А ў наступным годзе павінен выйсці з друку нямецкамоўны "Падручнік па беларускай гісторыі" аб'ёмам каля 500 старонак, напісаны, галоўным чынам, аўтарамі з Беларусі, Польшчы, Германіі і Канады.

У Аўстрыі беларусазнаўчыя доследы вядуцца ва універсітэтах Зальцбурга, Вены, Граца і Інсбрука. Тут актыўна працуюць некалькі спецыялістаў па беларускай мове, літаратуры і культуры, сярод якіх найбольш выдатныя — беларусісты Герман Бідэр і Фердынанд Нойрайтэр.

**Французскамоўная беларусістыка.** Да 1991 г. у Францыі пра Беларусь было надрукавана вельмі мала. Аднак з сярэдзіны 90-х гг. сітуацыя змянілася дзякуючы намаганням двух маладых спецыялістаў, Аляксандры Гужон, якая даследуе найноўшую палітычную гісторыю Беларусі, і Вірджыніі Шыманец, што займаецца гісторыяй беларускага тэатра і сучаснай беларускай культурай. Абедзве маюць беларускія карані ў трэцім пакаленні і валодаюць мовай сваіх продкаў. Буйной з'явай у французскай беларусістыцы было выданне ў 1997 г. іх манаграфіі "Гутарым па-беларуску: Мова і культура" ("Parlons biélorussien. Langue et culture"). У 1996 г. яны, з дапамогай іншых энтузіястаў, заснавалі Таварыства па развіццю даследаванняў, інфармацыі і культуры Беларусі. Гэтая арганізацыя, якую ўзначальвае гісторык Бруна Дрвескі, выдае штоквартальны бюлетэнь на 12 старонках "Беларускія перспектывы" ("Perspectives biélorussiennes") са спецыяльным дадаткам "Агляд прэсы". У гэтым выданні аналізуюцца апошнія падзеі на Беларусі, асабліва праблемы культуры і ўнутранай і знешняй палітыкі.

**Погляд у будучыню.** Беларусь прыцягвае ўвагу свету з прычыны незвычайных паводзін яе прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. У той час, калі сітуацыя ў Расіі робіцца небяспечна выбуховай, Беларусь, гэтае "самае слабое звяно" вакол перыметру імперскай Расіі, ператвараецца цяпер у важны паказчык магчымых геапалітычных зрухаў. У нядаўна выдадзеным зборніку "Белоруссия и Россия: Общества и государства", аўтары аднаго з артыкулаў, Марк Нордберг і Тарас Кузё з Бірмінгемскага універсітэта, не выключаюць самага горшага варыянта развіцця падзей. Яны пішуць: "Беларуская квазі-дзяржава можа зрабіцца каталізатарам ператварэння працэсу будавання сучаснай расійскай нацыі і дзяржавы ў працэс аднаўлення імперыі" (5). У гэтым жа сэнсе кангрэсмен Крыстафер

Х. Сміт, старшыня кангрэсавай Хельсінскай камісіі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе, выказаў думку, што “намаганні Лукашэнкі ў кірунку палітычнай і эканамічнай інтэграцыі з Расіяй патэнцыяльна могуць мець сур’ёзныя вынікі для суседніх дзяржаў, асабліва для Украіны” (6).

Такія перасцярогі робяць Беларусь, якую дасюль даследавалі вельмі мала, вартай навуковай увагі. Ужо даўно наспела патрэба стварыць цэнтр беларусазнаўчых доследаў у ЗША. Дзе? Як наконт Гарварда? Тут ужо былі выдадзены дзве грунтоўныя кнігі пра Беларусь (я маю на ўвазе кнігі Мікалая Вакара “Беларусь: Стварэнне нацыі” (“Belorussia: The Making of a Nation”) і Майкла Урбана “Алгебра савецкай улады: Рухомасць эліты ў БССР у 1966–1986 гады” (“An Algebra of Soviet Power: Elite Circulation in the Belorussian Republic, 1966–1986”). Таксама важна, а можа, нават і прароча, што першая буйная міжнародная канферэнцыя па Беларусі на Захадзе была арганізавана менавіта ў Гарвардзе. Улічваючы ўсё гэта, чаму б цэнтр беларусазнаўчых доследаў не заснаваць менавіта ў Гарвардзе? У спадзяваннях і малітве, што гэта аднойчы адбудзецца, я дзякую чытачам за ўвагу.

*Пераклад з англійскай мовы* ***Юрася Жалезкі***

---

(*) Ё. Ліхтэн не быў фармальным сябрам БІНІМ.

(1) Сядура У. Беларускі тэатр і драма. Нью-Ёрк, 1955; Вакар М. Беларусь: Стварэнне нацыі. 1956; Адамовіч А. Супраціўленне саветызацыі ў беларускай літаратуры ў 1917–1957 гадах. 1958; Рыч В. Як агонь, як вада: Анталогія беларускай паэзіі з 1828 года да нашых дзён. Лондан, 1971; Любачка І. С. Савецкае панаванне на Беларусі (1917–1957). Лексінгтан, 1972; Пашкевіч В. Пачатковы курс беларускай мовы. Таронта, 1974 (ч. 1), 1978 (ч. 2); Мэё П. Дж. Граматыка беларускай мовы. Шэфілд, 1976; Макмілін А. Б. Гісторыя беларускай літаратуры ад пачаткаў да нашых дзён. Гісэн, 1977; Садоўскі Д. Гісторыя беларусаў у Канадзе. Бельвіль, 1981; Урбан М. Алгебра савецкай улады: Рухомасць эліты ў БССР (1966–1986). Кембрыдж, 1989. Назвы падаюцца пераважна ў перакладзе.

(2) Беларуская хроніка. 1999. № 4. С. 7.

(3) Беларусь: государство, управление, человек: Национальный отчет о человеческом развитии (1998). Минск, 1998. С. 121.

(4) Нью-Ёрк: Беларускі інстытут навукі і мастацтва. 1998.

(5) Белоруссия и Россия: Общества и государства / Под ред. Д. Е. Фурмана. М., 1998. С. 391.

(6) Дакумент Кангрэса. 1999. 9 лют.



## У НЕКАЛЬКІ РАДКОЎ

Пастаноўка оперы “Фаўст” паводле лібрэта самога І.-В. Гётэ на музыку нясвіжскага ардыната Антонія Радзівіла ў Нацыянальным оперным тэатры Беларусі выклікала вялікую цікавасць у нямецкай грамадскасці. Вядомы нямецкі музычны крытык Вольфганг Зандэр, які прысутнічаў на спектаклі, а потым на яго абмеркаванні, выступіў 26 кастрычніка ў газеце “Frankfurter Allgemeine Zeitung” з артыкулам “Мефістофель прыходзіць таксама з Нясвіжа”. Барыс Керман высока ацаніў беларускага “Фаўста” на старонках “Opern Welt”.

***Віктар Скарабагатаў***

***Віктар Астрога*** *(Мінск)*

# ГІСТОРЫКІ-ЎСХОДАЗНАЎЦЫ БЕЛАРУСКАГА ПАХОДЖАННЯ (1917–1991)

**Віктар Астрога** — кандыдат гістарычных навук, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Аўтар прац па гісторыі навукі.

У адным з папярэдніх нумароў “Кантактаў і дыялогаў” (№ 6 за 1998 г.), у артыкуле “Гісторыкі беларускага паходжання ў СССР”, закранагася пытанне аб дзейнасці ўраджэнцаў Беларусі ў галіне ўсеагульнай гісторыі ў 20-я гг. Цяпер хацелася б прадоўжыць выбраную тэму і прапанаваць увазе чытачоў некаторыя статыстычныя і інфармацыйныя матэрыялы, што датычацца вывучэння ўраджэнцамі нашай краіны розных накірункаў гістарычнага ўсходазнаўства за ўвесь савецкі час — ад 1917 да 1991 г.

Як сцвярджае вядомы рускі бібліёграф савецкага ўсходазнаўства С. Мілібант, у канцы існавання Савецкага Саюза ў яго ўсходазнаўчых цэнтрах або індывідуальна працавала каля 1500 навукоўцаў, значную частку з якіх складалі гісторыкі (1). Тут трэба адзначыць, што ў гэты лік С. Мілібант уключала толькі самых выдатных, пераважна кандыдатаў і дактароў навук. Шляхам аналізу яе вельмі грунтоўнай кнігі і шэрагу іншых прац мной вызначана, што сярод усходазнаўцаў гістарычнага профілю ёсць і 41 ураджэнец Беларусі (2). Некаторая спецыяльная статыстычная апрацоўка іх жыццяпісаў сведчыць, што амаль палова з іх нарадзілася да 1917 г. (18 чал.), найстарэйшы — у 1868 г., пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі — 23 чал. (большасць з іх — у 20-я гг.), а наймаладзейшы — у 1945 г. Па месцу нараджэння больш паловы з іх (26 чал.) — з Усходняй Беларусі (Віцебская, Магілёўская, Гомельская вобл.), 8 — з Цэнтральнай (Мінская вобл.), 6 — з Заходняй (Брэсцкая, Гродзенская вобл.). А адзін — сын беларускага эмігранта з Ташкента. У сваёй большасці яны свядома і самастойна выбралі сваю будучую навуковую спецыяльнасць, паступіўшы дзеля гэтага, у асноўнай масе, у адпаведныя ВНУ Масквы і Ленінграда (24 і 12 чал.) або атрымалі адукацыю ў Ташкенце, Іжэўску, Варонежы і іншых гарадах. З тых, хто вучыўся ў Маскве, Маскоўскі універсітэт скончылі 9 чал., Маскоўскі інстытут усходазнаўства — 7, Маскоўскі дзяржінстытут міжнародных зносін — 3, Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры — 1, Маскоўскі дзяржпедінстытут — 1, Камуністычны універсітэт — 1, Вышэйшую дыпламатычную школу — 1, Ваенна-палітычную акадэмію — 1. З тых, хто накіроўваўся ў Ленінград (Санкт-Пецярбург), Ленінградскі дзяржуніверсітэт выбралі 9, Ленінградскі інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры — 2, Ленінградскі ўсходні інстытут — 1. Эмігранты з Беларусі ў асноўным атрымалі адукацыю да рэвалюцыі ці да вайны (23 чал.). Аднак крыху менш за палову праходзілі навучанне і пасля вайны (18 чал.) — у асноўным у 1950–1960-я гг. Каля дзвюх трацей працавалі ў навуковых асяродках АН і ВНУ Масквы і Ленінграда (27 і 6). Астатнія займаліся навукай у Алма-Аце, Калузе, Пскове, Самаркандзе, Ташкенце і інш. Вялікая колькасць з іх (19 чал.), вывуча-

ла найноўшы перыяд гісторыі Усходу, цікавячыся мінулым Афрыкі, Блізкага Усходу, Бірмы, Індыі і Турцыі. 9 чалавек даследавалі новы перыяд гісторыі (у асноўным — Кітая). Амаль столькі ж (8) спецыялізаваліся на старажытнасці, часта аддаючы перавагу егіпецкай гісторыі. Менш за ўсё было тых, хто займаўся усходнім сярэдневякоўем (у асноўным — Японіяй).

Ураджэнцы Беларусі дасягнулі значных поспехаў у сваіх галінах. Двое з іх сталі акадэмікамі (А. Грамыка і Б. Тураеў), 21 — дактарамі навук, 17 — кандыдатамі і толькі адзін не меў навуковай ступені, але тым не меней быў вядомым у сваіх колах спецыялістам. Некаторыя прадстаўнікі дыяспары вельмі актыўна ўдзельнічалі ў навукова-грамадскім жыцці, атрымалі замежныя ганаровыя годнасці: Р. Ахрамовіч — ганаровы дырэктар Кабульскага універсітэта, старшыня Расійска-Палесцінскага таварыства, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі абароны палесцінскай культуры; У. Балабушэвіч — ганаровы сябра Інстытута гістарычных доследаў Індыі, Санскрыцкага каледжа Калькуцкага універсітэта; Б. Волчак — сябра навуковага таварыства “Curent Antropology” (ЗША); А. Грамыка — замежны сябра Малагасійскай акадэміі; Б. Тураеў справядліва лічыцца класікам старажытнаўсходняй гісторыі.

Цяпер хацелася б прапанаваць чытачам спіс усходазнаўцаў — ураджэнцаў нашай краіны, якія ў 1917–1991 гг. працавалі ў межах былога СССР.

1. Амусін Іосіф Давідавіч (16.11.1910, Віцебск – 12.06.1984). Скончыў Ленінградскі дзяржуніверсітэт (ЛДУ; 1941), доктар гістарычных навук. Даследаваў старажытную гісторыю Блізкага Усходу. Працаваў у Ленінградзе.

2. Ахрамовіч Раман Цімафеевіч (13.11.1923, Мінск – 10.02.1989). Скончыў Маскоўскі інстытут усходазнаўства (МІУ; 1949), доктар гістарычных навук. Даследаваў найноўшую гісторыю Афганістана. Працаваў у Маскве.

3. Балабушэвіч Уладзімір Васільевіч (9.10.1900, вёска Субаты Драгічынскага р-на Брэсцкай вобл. – 14.11.1970). Скончыў МІУ (1925), доктар гістарычных навук. Даследаваў найноўшую гісторыю Індыі. Працаваў у Маскве.

4. Волчак Бася Якаўлеўна (н. 26.01.1922, Віцебск). Скончыла ЛДУ (1947), кандыдат гістарычных навук. Даследавала гісторыю і этнаграфію Паўднёвай Азіі. Працавала ў Ленінградзе.

5. Галуза Пётр Рыгоравіч (н. 26.05.1897, в. Даргейкі Сенненскага р-на Віцебскай вобл.). Скончыў Маскоўскі камуністычны універсітэт (МКУ; 1923), доктар гістарычных навук. Даследаваў гісторыю Сярэдняй Азіі. У апошні час працаваў у Алма-Аце.

6. Гарэлік Сара Барысаўна (н. 27.10.1911, г. Рэчыца Гомельскай вобл.). Скончыла Маскоўскі дзяржпедінстытут (1941), кандыдат гістарычных навук. Даследавала гісторыю Манджурыі. Працавала ў Маскве.

7. Гелер Леў Навумавіч (4.01.1875, г. Ваўкавыск Гродзенскай вобл. – 14.02.1942). Скончыў Харкаўскі універсітэт (1903), доктар эканамічных навук. Даследаваў гісторыю прафруху на Усходзе. Працаваў у Маскве.

8. Грамыка Анатоль Андрэевіч (н. 15.04.1932, г. Барысаў Мінскай вобл.). Скончыў Маскоўскі дзяржінстытут міжнародных зносін (МДІМЗ; 1954), членкар. АН СССР. Даследаваў найноўшую гісторыю Афрыкі. Працаваў у Маскве.

9. Грышына Ганна Міхайлаўна (н. 23.08.1920, м. Гарадзея Мінскай вобл.). Скончыла Маскоўскі дзяржуніверсітэт (МДУ; 1944), кандыдат гістарычных навук. Займалася афра-азіяцкай бібліяграфіяй. Працавала ў Маскве.

10. Зевелеў Абрам Ізраілевіч (н. 25.06.1921, м. Дрыбін Магілёўскай вобл.). Скончыў Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры (МІГФЛ; 1941), доктар гістарычных навук. Займаўся гісторыяй Сярэдняй Азіі. Працаваў у Ташкенце.

11. Іёнава Ала Іванаўна (н. 21.01.1936, Мінск). Скончыла МДУ (1958), доктар гістарычных навук. Даследавала найноўшую гісторыю Інданезіі. Працавала ў Маскве.

12. Кавалёў Павел Архіпавіч (н. 29.08.1905, г. Ташкент). З беларускай сям'і. Скончыў Ташкенцкі падінстытут (1941), кандыдат гістарычных навук. Даследаваў гісторыю Сярэдняй Азіі. Працаваў у Ташкенце.

13. Камароўскі Георгій Яўгеньевіч (н. 15.12.1933, Мінск). Скончыў МДІМЗ (1955), кандыдат гістарычных навук, спецыялізаваўся ў тэарэтычных праблемах усходазнаўства. Працаваў у Маскве.

14. Каралёва Ніна Аляксандраўна (н. 5.04.1936, Мінск). Скончыла ЛДУ (1958), кандыдат гістарычных навук. Вывучала гісторыю тайпінскага руху. Працавала ў Пскове.

15. Катляроў Уладзімір Сяргеевіч (10.04.1925, Гомель – 23.02.1995). Скончыў МДІМЗ (1957), кандыдат гістарычных навук. Даследаваў гісторыю Бірмы найноўшага часу. Працаваў у Маскве.

16. Каўфман Аркадзь Сямёнавіч (26.01.1914, Гомель – 27.03.1995). Скончыў Ленінградскі ўсходні інстытут (1938), доктар гістарычных навук. Даследаваў найноўшую гісторыю Бірмы. Працаваў у Маскве.

17. Кляшторны Сяргей Рыгоравіч (н. 4.02.1924, Гомель). Скончыў ЛДУ (1950), кандыдат гістарычных навук, цюрколаг, манголазнаўца. Працаваў у Маскве.

18. Кузняцова Соф'я Іосіфаўна (н. 1.01.1923, Віцебск). Скончыла МДУ (1946), доктар гістарычных навук. Даследавала найноўшую гісторыю Турцыі. Працавала ў Маскве.

19. Левін Залман Ісакавіч (н. 4.09.1923, г. Ветка Гомельскай вобл.). Скончыў МІУ (1947), доктар гістарычных навук. Вывучаў гісторыю арабскай грамадскай думкі. Працаваў у Маскве.

20. Леў Давід Натанавіч (н. 2.05.1905, Магілёў). Скончыў ЛДУ (1931), дацэнт, займаўся гісторыяй Сярэдняй Азіі. Працаваў у Самаркандзе.

21. Ліпін Леў Аляксандравіч (29.04.1908, Віцебск – 13.02.1970). Скончыў Ленінградскі інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры (ЛІГФЛ; 1938), кандыдат гістарычных навук. Даследаваў гісторыю старажытнага Міжрэчча. Працаваў у Ленінградзе.

22. Ліўшыц Ісак Рыгоравіч (4.05.1896, Гродна – 13.06.1970). Скончыў ЛДУ (1925), доктар філалагічных навук. Спецыяліст па гісторыі старажытнага Егіпта. Працаваў у Ленінградзе.

23. Лур'е Ісідар Мендзелевіч (3.12.1903, Мінск – 26.01.1958). Скончыў ЛДУ (1925), доктар гістарычных навук. Даследаваў гісторыю старажытнага Егіпта. Працаваў у Ленінградзе.

24. Мамаева Наталля Леанідаўна (н. 26.10.1945, г. Бяроза Брэсцкай вобл.). Скончыла МДУ (1968), кандыдат гістарычных навук. Даследуе гісторыю Гаміндана. Працуе ў Маскве.

25. Модзіна Эсфір Барысаўна (н. 14.11.1915, г. Рэчыца Гомельскай вобл.). Скончыла Іжэўскі педінстытут (1943), кандыдат гістарычных навук. Займалася новай гісторыяй Індыі. Працавала ў Калузе.

26. Мядзведка Леанід Іванавіч (н. 25.12.1928, в. Уваравічы Гомельскай вобл.). Скончыў МІУ (1952), доктар гістарычных навук. Аўтар прац па найноўшай гісторыі Блізкага Усходу. Працаваў у Маскве.

27. Нікіфараў Уладзімір Мікалаевіч (19.11.1920, Полацк – 16.12.1990). Скончыў МДУ (1947), доктар гістарычных навук. Даследаваў гісторыю Гаміндана. Працаваў у Маскве.

28. Пазнякоў Ігар Георгіевіч (17.09.1931, Бабруйск – 7.03.1974). Скончыў МДУ (1954), кандыдат гістарычных навук. Вывучаў гісторыю японскага сярэдневякоўя. Працаваў у Маскве.

29. Пастоўская Наталля Міхайлаўна (н. 14.06.1917, Мінск). Скончыла ЛІГФЛ (1940), кандыдат гістарычных навук. Спецыялізавалася ў гісторыі старажытнага Егіпта. Працавала ў Маскве.

30. Пракаповіч Анатоль Іванавіч (н. 08.01.1921, в. Старая Беліца Віцебскай вобл.). Скончыў Ваенна-палітычную акадэмію (1950), кандыдат гістарычных навук. Даследаваў найноўшую гісторыю Турцыі. Працаваў у Навачаркаску.

31. Прыбыткоўскі Леў Навумавіч (н. 19.11.1920, в. Насовічы Добрушскага р-на Гомельскай вобл.). Скончыў МІУ (1947), кандыдат гістарычных навук. Аб'ектам даследаванняў выбраў найноўшую гісторыю Нігерыі. Працаваў у Маскве.

32. Саладуха Юдэль Арэлевіч (1.08.1877, г. Ашмяны Гродзенскай вобл. – 12.07.1963). Скончыў Рыжскі настаўніцкі інстытут (1907), кандыдат гістарычных навук. Даследаваў сярэдневяковую гісторыю Ірана. Працаваў у Маскве.

33. Тураеў Барыс Аляксандравіч (5.08.1868, г. Навагрудак Гродзенскай вобл. – 23.08.1920). Скончыў Пецярбургскі універсітэт (1891), акадэмік Расійскай АН. Разглядаў у шырокім аспекце гісторыю старажытнага Усходу. Працаваў у Пецярбургу.

34. Ульяноўскі Расціслаў Аляксандравіч (н. 26.03.1904, Віцебск). Скончыў МІУ (1930), доктар эканамічных навук. Даследаваў найноўшую гісторыю Індыі. Працаваў у Маскве.

35. Файнберг Эсфір Якаўлеўна (н. 31.03.1908, Бабруйск). Скончыла МІУ (1935), доктар гістарычных навук. Вывучала гісторыю Японіі новага і найноўшага часу. Працавала ў Маскве.

36. Ханін Зянон Якаўлевіч (н. 14.07.1927, г. Талачын Віцебскай вобл.). Скончыў ЛДУ (1951), доктар гістарычных навук. Даследаваў гісторыю сярэдневяковай Японіі. Працаваў у Ленінградзе.

37. Ходаш Інеса Аляксандраўна (15.08.1922, Мінск – 29.04.1995). Скончыла МДУ (1946), кандыдат гістарычных навук. Даследавала новую гісторыю Кітая. Працавала ў Маскве.

38. Чапкевіч Яўгеній Іосіфавіч (н. 15.12.1936, Гомель). Скончыў Варонежскі універсітэт (1960), доктар гістарычных навук. Займаўся новай гісторыяй Кітая. Працаваў у Маскве.

39. Шабшына (Кулікова) Фаня Ісакаўна (н. 7.11.1906, м. Копысь Магілёўскай вобл.). Скончыла МДУ (1930), доктар гістарычных навук. Даследавала найноўшую гісторыю Карэі. Працавала ў Маскве.

40. Швакаў Андрэй Васільевіч (26.12.1920, в. Жакаўка Магілёўскай вобл. – 7.11.1994). Скончыў Вышэйшую дыпламатычную школу (1949), кандыдат гістарычных навук. Выбраў найноўшую гісторыю Блізкага Усходу. Працаваў у Маскве.

41. Эцінгер Якаў Якаўлевіч (н. 12.08.1929, Мінск). Скончыў МДУ (1956), доктар гістарычных навук. Даследаваў найноўшую гісторыю Афрыкі. Працаваў у Маскве.

У выніку можна сказаць, што частка здольнай беларускай моладзі, якая не мела магчымасці ажыццявіць свае планы ў навуцы на роднай зямлі, была вымушана выязджаць за яе межы, у асноўным у Расію (Масква, Ленінград і інш.), каб там сказаць сваё слова ў навуцы.

---

(1) Милибанд С. Д. Библиографический словарь отечественных востоковедов. М., 1995. Кн. 1. С. 3.

(2) Библиографические очерки о деятелях общественных наук Узбекистана / Сост. Б. В. Лунин. Ташкент, 1976; Ахунова М. А., Лунин Б. В. История исторической науки в Узбекистане. Ташкент, 1970; Слово об учителях. М., 1988.



## З НАВАГОДНЯЙ ПОШТЫ

Сёння я атрымаў беларускі пераклад дантаўскай “Боскай камедыі”. Мне гэта было вельмі прыемна. Лічу, што выхад кнігі — важны факт у сувязях паміж нашымі дзяржавамі.

Цяпер чакаю, калі будуць надрукаваны мае пераклады з Янкі Купалы і Алеся Разанава. Спадзяюся, што гэта будзе хутка.

***Паола Гальваны*** *(Балонія), атрымана па e-mail*

У Бранску (Бранскі мастацкі музей) адбылася міжрэгіянальная выстаўка “Рушнік і традыцыйны народны касцюм” з удзелам музеяў Гомеля і Чарнігава. Экспанаваліся розныя тыпы рушнікоў, у тым ліку беларускіх. Адбылася навуковая канферэнцыя.

***Андрэй Катлярчук*** *(Бранск), атрымана па e-mail*



## НАШЧАДАК АГІНСКАГА ПРЭЗЕНТУЕ СВАЮ КНІГУ




Дзякуючы зацікаўленасці Пасла Беларусі ў Вялікабрытаніі Уладзіміра Шчаснага было зроблена істотнае (асабліва калі зважаць на вынікі) адкрыццё: аказваецца, у туманным Альбіёне пражываюць два нашчадкі аўтара паланеза “Развітанне з Радзімай” Міхала Клеафаса Агінскага — браты Анджэй і Іва Залускія, абодва кампазітары, абодва музыканты. Іх стараннем у Лондане пабачыў свет дыск “Музыка дынастыі Агінскіх”. А А. Залускі напісаў кнігі “Час і музыка Міхала Клеафаса Агінскага” і “Загадка “Мазуркі” Дамброўскага: Дэтэктыўная справа з васемнаццатага стагоддзя”. У другой з іх аўтар даказвае, што наш суайчыннік (Агінскія паходзяць са старадаўняга беларускага роду Глушонкаў) мае самае непасрэднае дачыненне да напісання... сучаснага польскага гімна.

Неўзабаве дзякуючы стараннямі таго ж Уладзіміра Шчаснага абодва браты пабывалі ў Беларусі — у Мінску, дзе наведалі Беларускую акадэмію музыкі, Цэнтр імя Ф. Скарыны, выступалі з канцэртамі, у Залессі Смаргонскага раёна, колішняй сядзібе кампазітара, Смаргоні, дзе ўдзельнічалі ў рабоце журы Міжнароднага дзіцячага музычнага конкурсу імя Агінскага, Маладзечанскім музычным вучылішчы, што носіць тое ж імя (неўзабаве перад ім узвысіцца помнік кампазітару, над праектам якога цяпер працуе скульптар Валерый Янушкевіч). Выдавецтва “Чатыры чвэрці” тады ўзялося выдаць кнігу Анджэя Залускага ў перакладзе з англійскай на рускую мову Уладзіміра Плютава. Прадмову да выдання напісаў, зразумела, Уладзімір Шчасны. Ад ганарару нашчадак Агінскага адмовіўся, бо меркаваў, што частка выручкі (калі яна будзе) пойдзе на рэстаўрацыю сядзібы ў Залессі.

І вось 26 кастрычніка ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі адбылася ўрачыстая прэзентацыя кнігі. Аўтар прыехаў на яе з Залесся з букетам кляновых лістоў, сабраных пад дрэвамі, якія, мабыць, яшчэ памятаюць Агінскага. Адкрылася вечарына зачытаным прывітаннем Пасла Ула-

дзіміра Шчаснага, які лічыць пераклад пачаткам здзяйснення новых музычных і выдавецкіх планаў. Дацэнт Вольга Дадзёмава, якая вяла прэзентацыю, першым прадаставіла слова Ігару Лучанку. Старшыня Саюза беларускіх кампазітараў прыгадаў, што “Паланез” Агінскага быў першым яго любімым творам, які аказаў вялікае ўздзеянне на яго песенную творчасць. Затым выступілі старшыня праўлення Беларускага таварыства дружбы Арсень Ваніцкі, дырэктар выдавецтва “Чатыры чвэрці” Ліліяна Анцух, загадчыца аддзела культуры Смаргонскага райвыканкама Соф’я Лабар, кіраўнік Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адам Мальдзіс (ім напісаны яшчэ адзін уступ да кнігі — пад назвай “Агінскі — і наша гордасць”), пісьменнік Уладзімір Мархель (ён прыгадаў, што Агінскі — яшчэ і паэт, пісаў тэксты да сваёй музыкі), перакладчык Уладзімір Плютаў. Маэстра Ігар Алоўнікаў выканаў “сваю версію” славутага паланеза “Развітанне з Радзімай”. Спявалі на вечары Віктар Скорабагатаў і Таццяна Цыбульская. З тэматычнай гульнёй-імправізацыяй выступілі юныя таленты з Залесся пад кіраўніцтвам вядомага энтузіяста Верамейчыка. А залу ўпрыгожваў партрэт М.-К. Агінскага работы Уладзіміра Стальмашонка.



*На здымку — Анджэй Залускі*

Анджэй Залускі, які выступіў у заключэнне, выказаў радасць з повату таго, што творчая спадчына яго продка так зберагаецца і шануецца на беларускай зямлі. Ён паабяцаў прыняць удзел у Міжнародным фестывалі камерных аркестраў, які ў наступным годзе ў шосты раз пройдзе ў Смаргоні.

***Святлана Немагай**, выкладчыца Беларускай акадэміі музыкі*

## БЕЛАРУСЬ – ЛАТВІЯ

11 лістапада ў Доме дружбы адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны Дню Незалежнасці Латвіі. У ім прынялі ўдзел і выступілі з прамовамі Часовы паверааны ў справах Латвійскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Інгрыда Лаурэнцэ і Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Латвія Міхаіл Марыніч, а таксама намеснік старшыні Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі Ніна Іванова. Яны гаварылі аб шматвяковых традыцыях дружбы паміж нашымі народамі, пра справы беларускай дыяспары ў Латвіі і латышскай у Беларусі.

На вечары адбылася прэзентацыя кнігі беларускага паэта Станіслава Валодзькі “Зварот да сэрца”. Яе аўтар нарадзіўся ў Беларусі, у Астравецкім раёне, а цяпер жыве ў Латвіі, у Даўгаўпілсе, з’яўляецца намеснікам старшыні Беларускага культурнага таварыства “Уздым”. Пра творчасць Станіслава Валодзькі сардэчна гаварылі прафесары Даўгаўпілскага універсітэта Людміла Цімошчанка і Эдуард Мекш, галоўны рэдактар газеты “Латгалес Лайкс” пісьменніца Ганна Ранцане, выконваючая абавязкі старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў паэтэса Вольга Іпатава і іншыя. Вершы госця з Даўгаўпілса чыталі артысткі Галіна Дзягілева і Аксана Бубнова. Гучалі песні на словы Станіслава Валодзькі, музыку да якіх напісаў Генрых Галіцкі.

У канцы вечара выступілі Алег Валодзька, старэйшы сын паэта, які эмацыянальна прачытаў вершы свайго бацькі, а таксама сам Станіслаў Валодзька.

***Сяргей Панізнік**, старшыня праўлення Таварыства “Беларусь – Латвія”*



25 лістапада ў тым жа Доме дружбы адбылася ўрачыстасць, прысвечаная пяцігоддзю газеты “Прамень”, якая выдаецца на беларускай мове ў Рызе. На вечары прысутнічалі дыпламаты, дзяржаўныя дзеячы, вучоныя, пісьменнікі, журналісты. Часовы паверaны ў справах Латвіі ў Беларусі Інгрыда Лаурэнцэ прыемна ўразіла прысутных выступленнем на добрай беларускай мове. Рэдактар газеты Лявон Шакавец атрымаў беларускія ўзнагароды і каштоўны падарунак ад Дзяржаўнага камітэта па друку Беларусі. На вечары гучалі песні ў выкананні беларускага і латышскага мастацкіх калектываў.

Прысутныя атрымалі юбілейны нумар “Праменя”, агледзелі фотавыстаўку, прысвечаную гісторыі газеты.

## БЕЛАРУСЬ – БЕЛЬГІЯ

30 лістапада сябры Таварыства “Беларусь – Бельгія” адзначылі 55-годдзе панавання ў дружалюбнай нам краіне сённяшняй каралеўскай дынастыі. Праводзіліся паралелі з “некаранаванымі каралямі” Беларусі Радзівіламі. Пра беларуска-бельгійскія сувязі ў галіне мастацтва гаварыла кандыдат архітэктуры Тамара Габрусь.

Прысутныя на вечары, а сярод іх было многа школьнай моладзі з Бараўлян, прагледзелі беларускія і бельгійскія дакументальныя фільмы.

***Тамара Антановіч**, старшыня праўлення Таварыства “Беларусь – Бельгія”*

## БЕЛАРУСЫ Ў САРЭПЦЕ

10–12 верасня 1999 г. быў праведзены Міжнародны фестываль нацыянальных культур “Сарэпта — аазіс для пяці народаў: Тры стагоддзі добрасуседства і згоды” — у межах Дзён еўрапейскай культурнай спадчыны. Пачаўся ён наву-

ковай канферэнцыяй “Сарэпта і народы Паволжа ў гісторыі і культуры Еўропы”, на якой закраналася таксама пытанне пра беларусаў на Валгаградскай зямлі, дзейнасць Беларускага цэнтра ў Сарэпце. Затым адкрылася выстаўка “Бытавая культура народаў Ніжняга Паволжа канца XIX – пачатку XX ст.”, прайшлі выступленні фальклорных калектываў. У апошні ж дзень адбылося масавае тэатралізаванае свята “Сарэпцкая восень”, быў закладзены Сад дружбы.

Фестываль пакінуў ва ўсіх незабыўнае ўражанне. Прысутныя пастараліся як мага бліжэй пазнаёміцца з дзейнасцю нацыянальных культурных цэнтраў, у тым ліку беларускага. У правядзенні фестывалю, як і наогул ва ўсёй працы Беларускага культурнага цэнтра ў Сарэпце, аказвалі і аказваюць дапамогу яго сябры — дырэктар Гандлёвага дома “Беларусь” Уладзімір Сітнікаў і дырэктар аднаго з мясцовых заводаў Іван Табакоў.



*На здымку (злева направа): сябры Беларускага цэнтра ў Сарэпце Анатоль Паўлоўскі, Віктар Будзілоўскі, Аляксандр Глод (намеснік старшыні Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў РФ, Масква), Віктар Мядзведзеў (аўтар). Фота Уладзіміра Саўчанкі*

Хочацца таксама адзначыць, што газета “Новости Сарепты” пачала змяшчаць матэрыялы па этнаграфіі беларусаў, што наш Цэнтр вядзе збор экспанатаў, якія характарызуюць побыт беларусаў, філалагічнай літаратуры.

***Віктар Мядзведзеў** (Сарэпта Валгаградскай вобл.)*



## З НАВАГОДНЯЙ ПОШТЫ

Пошта прыйшла. Пошта —
Як калісь, як напярадвесні:
Прыгожая, простая песня.

Не пакінь нас, святы Божа,
Не пакінь, мілы Божа, песню
Без колішняга, перадвесняга!

*Заўсёды з Вамі* ***Мая Львовіч** (Харкаў)*





## ПЕРУ – БЕЛАРУСЬ: ПЕРШЫЯ ЎРАЖАННІ

У размове ўдзельнічаюць: *Амадэо Куба Эсківель* (Перу), доктар філасофіі, аўтар працы па італьянскай хрысціянскай філасофіі, жыве ў Рыме; *Святлана Грачухіна* (Беларусь), супрацоўніца Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, атрымала ў Рыме універсітэцкую адукацыю.

*С. Г. — Чалавек, які наведвае Беларусь упершыню і які ўвогуле ніколі не сутыкаўся са славянскім светам і славянскай культурай, — як ён успрымае ўбачанае і пачутае?*



Мачу-Пічу — археалагічны комплекс старажытнага горада інкаў

А. К. Э. — Ведаеце, калі прыязджаеш з такой краіны, як Перу, асабліва пасля Лімы, Мінск вонкава падаецца вельмі малым горадам, зручным для жыцця сучаснага чалавека. Я сказаў бы, збудаваным на памер чалавека. Тут няма тых стрэсавых сітуацый, як у метраполіях Лацінскай Амерыкі.

Калі ж гаварыць пра культурны ўзровень, дык, напэўна, праблемы, якія існуюць тут, зусім іншыя, чым у Перу. Там яшчэ змагаюцца з непісьменнасцю. У Беларусі ідзе, на маю думку, нейкі духоўны пошук таго, чаго гэты народ быў пазбаўлены ў час панавання камуністычнай ідэалогіі. Але і ў Перу, і ў Беларусі ёсць, мне здаецца, відавочная прага да ведаў. У гэтым сэнсе абедзве нашы нацыі пакідаюць уражанне нейкай маладосці ў параўнанні з той жа Еўропай, дзе адчуваецца пэўная роспач ад перанасычанасці ўсім.

*С. Г. — Так, тут ёсць пэўная рацыя, бо, дадам са свайго боку, у час наведвання Перу мяне таксама ўразіла, наколькі культурны рух андзінскага народа падобны да руху беларускага. Бо там таксама набірае моц адраджэнскі рух, рухавіком якога выступае свядомая інтэлігенцыя. Я маю на ўвазе іх вяртанне каранёў — да даіспанскай культуры інкаў, цывілізацыі, якая дзякуючы сваёй магутнасці і нейкай таямнічасці нікога не пакідае абыякавым: ні навукоўца, ні звычайнага наведвальніка.*

А. К. Э. — Яшчэ дваццаць год таму наша культура, па сутнасці, не вывучалася. Дзякуючы даследчыкам з Паўночнай Амерыкі і Еўропы за апошнія дзесяцігоддзі былі зроблены шматлікія адкрыцці, асабліва археалагічныя. Пачаўся імклівы працэс адраджэння. Пры універсітэтах пачалі займацца вывучэннем мовы інкаў — кетчуа, на якой, на шчасце, дагэтуль размаўляюць жыхары Андаў. Пачаліся даследаванні рэгіёнаў Перу, дзе былі знойдзены сляды даінкаўскіх культур, якія ў многім не саступаюць культурам Старажытнага Усходу ці старажытнай Еўропы. На мове кетчуа з'яўляюцца літаратурныя творы. Мяне вельмі ўзрадавала, што ўжо ў час богаслужэння спяваюцца песні на нашай мове.



Мачу-Пічу — археалагічны комплекс старажытнага горада інкаў

*С. Г. — А з боку палітычных уладаў ствараюцца нейкія перашкоды гэтаму працэсу? Мне падалося, што ваша адраджэнне адбываецца вельмі спакойна, я сказала б нават, што неяк вельмі натуральна. Яно нібы прарастае само па сабе, бесканфліктна, у іспанамоўным асяроддзі.*

А. К. Э. — Перуанскі ўрад садзейнічае развіццю нацыянальнай культуры, пры ўсёй беднасці нашай краіны выдзяляе сродкі і на даследаванні, і на рэстаўрацыю гістарычных аб'ектаў, імкнецца таксама развіваць турыстычную індустрыю. Да таго ж, няма нейкага варожага процістаяння паміж іспанскай і мясцовай культурай. Можа, дзякуючы таму, што ў Перу больш, чым у якой іншай краіне Лацінскай Амерыкі, жыве мясцовага насельніцтва.

*С. Г. — У такім сэнсе, напэўна ж, існуе розніца ў параўнанні з развіццём нацыянальнай культуры ў Беларусі? Але што неяк адразу кідаецца ў вочы: нацыя перажывае натуральны працэс, які можна назваць пошукам сваёй тоеснасці. І толькі праз сцвярджэнне яе магчыма "адкрыцца" на іншыя культуры.*

А. К. Э. — Думаю, што калі Беларусь працягне такі натуральны працэс звароту да ўласнай традыцыі, дык урэшце яна ўвасобіцца ў новую стваральную сілу.

***Ад рэдакцыі.*** Наведаўшы напярэдадні Новага года рэдакцыю "Кантактаў і дыялогаў", доктар Амадэо Куба Эсківель сказаў некалькі першых слоў па-беларуску і пакінуў запіс у кнізе ганаровых гасцей. І гэта быў першы запіс у ёй на мове кетчуа.





## СІМВАЛ РОДНАГА СЛОВА: РОЗДУМ ПАСЛЯ ВАРШАЎСКАГА КАНГРЭСА УНІВЕРСАЛІСТАЎ

20–25 верасня 1999 г. у Варшаве, на базе Інстытута філасофіі Варшаўскага універсітэта, адбыўся Другі еўрапейскі кангрэс дыялога і універсалізму, які ў чарговы раз прымусіў аб сім-тым задумацца.

Першае. Па яркіх транспарантах, якія віселі паўсюль ва універсітэцкім гарадку, было відаць, што да Кангрэса рыхтаваліся сур'ёзна. Пачатковае ўражанне, аднак, было крыху сапсавана рознымі арганізацыйнымі "нестыкоўкамі". Звыклая нават да экстрэмальных умоў беларуская дэлегацыя паставілася, зрэшты, да дробных непаразуменняў як да належнага, спакойна ўспрыняла нават тое, што ў час Кангрэса, як раптам высветлілася, беларуская мова не з'яўлялася мовай работы шаноўнага форуму, хаця раней гэта не было агаворана. З увагі на лозунг кангрэса "Нацыянальныя культуры твораць Еўропу", а таксама на спецыфічную сацыялінгвістычную сітуацыю, што склалася ў Беларусі, беларускім навукоўцам усё ж літасціва дазволілі выступаць па-беларуску. Праўда — пасля невялікага скандалу, ці, дакладней, пратэсту, заяўленага, дарэчы, больш актыўна жанчынамі і слаба падтрыманага тымі, хто збіраўся выступаць з рэфератамі ад Беларусі і хто чамусьці не зразумеў майго "трымаймася разам!". У сувязі з гэтай акалічнасцю я вельмі ўдзячна беларуска-польскаму і польска-беларускаму перакладчыку Чэславу Сэнюху і асабліва яго жонцы праф. Генавефе Коць-Сэнюх, якія падтрымалі беларускую мову са смеласцю і рашучасцю, якіх так відавочна не стае нам самім.

Родная мова, хто абароніць цябе? Хто заступіцца, не дбаючы аб выніках такога кроку? Родная, з дзяцінства чутая, самая прыгожая ў свеце, хто паспачувае табе, сёння часта скалечанай у вуснах неразумных дзяцей тваіх? Не толькі любоў і пашана патрэбны табе сёння, але найперш мужнасць, рыцарства, смеласць, адвага. Ды дзе ўзяць іх, калі многія сыны твае, недарэкі, разумець развучыліся, што толькі дзякуючы табе яны яшчэ чагосьці вартыя?

Не мець надзейнай апоры і падтрымкі — вельмі цяжка, але самому стаць апорай і падтрымкай чагосьці бывае яшчэ цяжэй. Польскае "Бог. Гонар. Айчына" заўсёды мне імпанавала не менш, чым рускае "Честь имею", бо яно ўзмацняе адказнасць не толькі за захаванне сваёй чалавечай годнасці, але і за годнасць сваёй Радзімы, ставіць на першае месца не слабыя чалавечыя сілы, але Абсалютную Ісціну, Абсалютнае Дабро і Абсалютную Справядлівасць.

Хто ж можа выступаць ад імя Беларусі, баронячы яе карэнныя інтарэсы і яе гонар? Кожны, хто ахвяруецца дзеля яе. Менавіта ахвяруецца, забываючыся пра

свае ўласныя амбіцыі і прыватныя інтарэсы. Паўтаруся: ахвяруецца, калі гэтага патрабуе сітуацыя. Не шукае грантаў на свае праекты, хаця і гэта выключна важна, бо на карту ставіцца развіццё беларускай гуманістыкі, не даказвае сваё добрае валоданне польскай мовай (хто пачне аспрэчваць неабходнасць валодання замежнай мовай ці ўвогуле неабходнасць адпавядаць пэўнаму агульнакультурнаму і інтэлектуальнаму ўзроўню?), але ў патрэбны момант адчувае сябе часткай каманды, задача якой — прэзентаваць Беларусь, а не сябе і сваю сервілісцкую псіхалогію, абараняць права Беларусі на яе нацыянальнае быццё. Такое элементарнае права — права на Слова, а гэта значыць права на думку, права на волю, права на выбар.

Абсалютна зразумела, што свае моўныя праблемы мы мусім вырашаць унутры сваёй краіны, а на міжнародны ўзровень выходзіць у адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі, г.зн. у дадзеным выпадку зрабіць выступленне па-польску, па-англійску ці па-руску, што зусім не складана тэхнічна. Аднак паколькі практычна ўсе тэмы выступленняў беларускіх вучоных датычыліся праблем нацыянальнай самаідэнтыфікацыі, нацыянальнай ідэі, нацыянальнай культуры, а тым самым і нацыянальнай, беларускай, мовы, стаўленне да якой трэба мяняць да лепшага і ўнутры краіны, і звонку, у краінах суседніх, то даклады павінны былі прагучаць па-беларуску. Не забывайма, што мы ў Беларусі добра разумеем польскую мову, і я не ведаю выпадкаў, каб гасцей з суседняй краіны папрасілі з польскай мовы перайсці на беларускую. І праблема тут не ў арганізатарах канферэнцыі, а ў нас саміх.

Вядома, на мове, патрыятызме можна спекуляваць гэтаксама, як і на ўсім іншым. Сама па сабе прыхільнасць да беларускай мовы, карыстанне ёю яшчэ не з’яўляюцца сведчаннем высокай маральнасці і духоўнасці чалавека. Хаця ўжо само адмаўленне свайго, адчужэнне ад свайго ёсць, як мне здаецца, прыкметай амаральнасці, бездухоўнасці, безадказнасці і правінцыялізму.

Я на ўласным вопыце пераканалася, што вышэй за ўсё і важней за ўсё маральнасць, прыстойнасць чалавека, ступень яго духоўнасці. Усё астатняе — выяўленне духоўнасці, у тым ліку нацыянальная культура і нацыянальная мова. Нават беларускамоўная інтэлігенцыя, калі ёй не стае актыўнасці духу, не ў стане абараніць мову, нацыю, краіну. Зразумела, што кожны мае свае хібы, але ва ўсякай слабасці павінна быць мяжа, ніжэй за якую тое, што не можа быць прынята — здрада, нянавісць, забойства. Чалавек жа жыве не толькі для гісторыі, бо тады можна апраўдаць любыя ўчынкі, любыя сродкі дасягнення мэты. Рызыкну сцвярджаць, што застаецца не толькі напісанае, але і думанае, і робленае, не абавязкова тое, што прыносіць славу, вядомасць, аўтарытэт. Гэта вядомыя ў хрысціянстве ісціны, але чамусьці слаба запатрабаваныя нават інтэлігенцыяй.

Мы прывыклі ацэньваць людзей па тым, што яны напісалі, выдалі, арганізавалі. Гэта патрабуе шмат часу, настойлівасці і ўмення, з гэтага вынікае вядомасць і аўтарытэт , слава і імя. А чым ацэньваецца тая ахвярнасць, якая накіравана на чалавечую, сяброўскую, ідэйную падтрымку, калі твой удзел нідзе не “прапісаны”?

Магчыма, укладанне сябе ў справу без агучвання свайго імя і з'яўляецца крытэрыем сапраўднай адданасці ідэі і мерай духоўнасці чалавека.

На сённяшні дзень ужо не па мове вызначаю я вартых і менш вартых, хаця, безумоўна, у беларускамоўным асяроддзі мне значна ўтульней і камфортней. Моўная прыкмета — гэта прыкмета прыналежнасці да пэўнай культуры; у беларускай сітуацыі беларускамоўе можа яшчэ азначаць актыўную прыхільнасць да нацыянальна-культурнага Адраджэння, а таксама адпаведны род заняткаў: адукацыя, культура, літаратура і г.д. Але само па сабе валоданне і карыстанне беларускай мовай яшчэ не сведчыць пра маральныя якасці асобы, пра яго інтэлектуальны досвед.

Другое. Беларуская гуманітарная навука сёння падзелена на рускамоўную і беларускамоўную часткі, кожная з якіх развіваецца самастойна. Асабліва гэта датычыцца філасофскіх навук. Але што такое беларуская філасофія? Ці ўключае яна даследаванні беларускіх навукоўцаў, зробленыя на рускай мове і, што галоўнае, ці не ігнаруе — нібы іх і не існуе ў прыродзе! — і не замоўчвае наўмысна прац і саміх імён Ігната Канчэўскага, Уладзіміра Самойлы, Фабіяна Абрантовіча, Тамаша Грыба, Часлава Сіповіча і многіх іншых?! Колькі дыпламаваных беларускіх філосафаў працягваюць традыцыі названых навукоўцаў, з'яўляюцца прадстаўнікамі іх школ ці хаця б ведаюць сутнасць іх прац? А без класічнай філасофіі любая нацыя лічыцца недаспелай… Ды і як арыентавацца, на чым акцэнтаваць увагу калегам з іншых краін, калі мы самі не дадзім рады ў вызначэнні, што ёсць нашае…

Беларуская гуманістыка робіць уражанне ўнутрана нявырашанай, бо агульнапрызнаныя ў Еўропе фундаментальныя каштоўнасці, да прыкладу, родная мова, не сталі такімі ў Беларусі. Гэты фактар стрымлівае паслядоўнае, лагічнае развіццё і рускамоўнай, і беларускамоўнай гуманітарнай навукі, перашкаджае ёй натуральна ўліцца ў еўрапейскую і сусветную тэарэтычную парадыгму, зноў і зноў адкідае нас назад. А не вырашыўшы сваіх нацыянальна-культурных праблем, як мы можам вырашаць праблемы універсалізму?!

Трэцяе. На кангрэсе ўсе даклады з беларускага боку непасрэдна датычыліся праблем нацыянальнага самавызначэння. Гэтая праблематыка, навуковыя падыходы да яе вырашэння выклікалі вялікую цікавасць усіх прысутных. Але няўжо мы без канца будзем на ўсіх еўрапейскіх форумах гаварыць найперш пра свае хваробы, пра лекі ад іх? Так і чакай: калі выступленне гучыць па-беларуску, то ў ім абавязкова будзе разгледжана пытанне нацыянальнай самаідэнтыфікацыі. Нібы па-беларуску можна гаварыць толькі пра абсурднасць (паводле еўрапейскіх мерак) нашай сітуацыі. Ідэя польскасці, дарэчы, ненавязліва існавала ці не ў кожнай тэзе польскіх навукоўцаў, але яна прымалася як аксіёма і не патрабавала дадатковай сістэмы аргументаў, якую заўсёды (прычыны тут зразумелыя) старанна імкнемся выбудаваць мы самі.

Чацвёртае. У час кангрэсу (і не толькі) можна было пераканацца, што Варшава літаральна дыхае польскай даўнінай, польскай гісторыяй і польскай самапавагай — праз назвы вуліц, шматлікія помнікі, паўсюдную польскую мову.

Аўдыторыі Варшаўскага універсітэта таксама носяць імёны нацыянальных герояў. Прыклад: аўдыторыя імя Адама Міцкевіча, дзе праходзілі асноўныя пасяджэнні кангрэсу. Хіба не варта гэта пераймання хаця б нашымі універсітэтамі?

Удзельнікі кангрэса дзякуючы яе асноўным арганізатарам — праф. Янушу Кучынскаму, ганароваму прэзідэнту Міжнароднага таварыства універсалізму, і доктару Юзафу Краковяку — мелі цудоўную мажлівасць нефармальнага абмену думкамі, што заўсёды ўзбагачае. І ўсе пагадзіліся з тэзай шаноўнага прафесара Кучынскага, што “сэнс жыцця — гэта ступень выкарыстання дадзеных нам варункаў і шанцаў”…

А “беларускаму пытанню” была ўсё ж прысвечана асобная сесія, што і радуе, і засмучае… Прынамсі, менавіта беларусы ўзмацнілі аспект універсалізму, каб ураўнаважыць польскасць і безаблічны касмапалітызм.

Пятае і апошняе. У душу моцна запаў надпіс на адным з варшаўскіх будынкаў: СТОП — СЕРВІЛІЗМУ!

*Любоў Уладыкоўская-Канаплянік, кандыдат філалагічных навук, дырэктар Цэнтра імя Ф. Скарыны*



## З НАВАГОДНЯЙ ПОШТЫ

### ДЛЯ ЎШАНАВАННЯ ПАМЯЦІ ЧЭРСКАГА



Праз бюлетэнь “Кантакты і дыялогі” хочацца выказаць сардэчную ўдзячнасць беларусісту Алесю Баркоўскаму, які жыве і працуе ў Якуцку. Ён аказаў дапамогу нашаму музею і папоўніў яго новымі матэрыяламі пра вядомага географа, ураджэнца Беларусі (вёска Свольна цяперашняга Вехнядзвінскага раёна) Івана (Яна) Дзяменцьевіча Чэрскага.

Трэба сказаць, што сёлета ў нас была вялікая паводка. Магіла І. Чэрскага, якая знаходзіцца ў сяле Калымскае, у 180 кіламетрах ад нашага райцэнтра, таксама была падтоплена. Сляды разбурэнняў мяркуем ліквідаваць у наступным годзе, калі будзе адзначацца 155-годдзе з дня нараджэння вучонага. Добра было б адшукаць сродкі і выдаць хаця б невялікую юбілейную брашуру. У нашым улусе паліграфічная база вельмі прымітыўная. Таму мы будзем вельмі рады, калі ў каго з’явяцца якія канструктыўныя прапановы.

На здымку: помнік І. Чэрскаму, які устаноўлены ва ўлусе Калымскае ў 1992 г. Яго аўтар — скульптар Мікалай Нікіцін з Санкт-Пецярбурга.

*Зора Робек, дырэктар Ніжнекалымскага музея гісторыі і культуры народаў Поўначы (п. Чэрскі, Рэспубліка Саха).*





## АПОШНІ ГРАМАДЗЯНІН ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

Польская газета "Плюс–мінус" неяк азагаловіла свой артыкул пра Ежага Гедройца "Князь з Вялікага Княства". Аднак у маім уяўленні — а сустракаўся з ім я ў Парыжы некалькі разоў — гэта не князь, а грамадзянін, талерантны, дэмакратычны грамадзянін, апошні свядомы грамадзянін Вялікага Княства Літоўскага. Мусіць, таму яму, ураджэнцу Мінска (прыгадаем, што да Першай сусветнай вайны гэты горад часцей за ўсё называлі Мінскам Літоўскім), найперш прысвоілі ганаровае грамадзянства і ўзнагародзілі ордэнам Гедыміна ў Літве… А ў Беларусі арганізавалі толькі прысвечаную яму выстаўку і выдалі нумар "Фрагмэнтаў", складзены з лепшых матэрыялаў парыжскай "Культуры", якую Ежы Гедройц рэдагуе вось ужо на працягу пяцідзесяці гадоў. Хаця па ўсёй логіцы павінна было б быць наадварот: найперш — прызнанне на радзіме, а потым ужо ў сённяшняй Літве.



Без некаторых фактаў біяграфіі, відаць, мне не абысціся. Ежы Гедройц, прадстаўнік старадаўняга беларуска-літоўскага шляхецкага роду, нарадзіўся ў Мінску 27 ліпеня 1906 г. У сваёй кнізе "Аўтабіяграфія на чатыры рукі" пра сваё дзяцінства будучы майстар публіцыстычнага слова пісаў так: "Да 1919 года мае бацькі жылі ў Мінску Літоўскім. Сям'я была вельмі збяднелай. Маёнткі зніклі разам з прадзедам Люцыянам, афіцэрам гвардыі у расійскай арміі, які скончыў жыццё самагубствам. Пасля яго смерці, згодна з тагачасным звычаем, маёмасцю пачаў кіраваць сямейны савет, які растранжырыў абсалютна ўсё, у выніку мой дзед застаўся абсалютна без нічога, з нейкім маленькім фальварачкам каля Смілавіч, у вельмі цяжкіх умовах. Таму мой бацька закончыў фармацэўтычныя штудыі і працаваў аптэкарам. Атмасфера ў доме была даволі крызіснай, даволі нішчымнай".

І тым не меней у мінскім доме Гедройцаў захоўвалася вялікае багацце — дзве вялікія шафы з кнігамі на польскай, рускай і французскай мовах. Юны Ежы паглынаў кнігі "ў неверагодных колькасцях", асабліва працы па гісторыі, якія ака-

залі на яго вялікі ўплыў. Таму вучыўся юнак лёгка. У 1916 г. яго паслалі ў гімназію ў Маскву, дзе ён “хутка і добра” авалодаў рускай мовай.

Далейшы лёс Ежага Гедройца складваўся так. У сувязі з наступленнем Чырвонай Арміі сям’я Гедройцаў выехала з Мінска ў Варшаву. Там будучы рэдактар “Культуры” скончыў юрыдычны і гістарычны факультэты Варшаўскага універсітэта. Працаваў у міністэрствах сельскай гаспадаркі, прамысловасці і гандлю, рэдагаваў розныя часопісы. На пачатку Другой сусветнай вайны выехаў праз Румынію і Турцыю ў Палесціну, удзельнічаў у антыфашысцкіх ваенных кампаніях. У 1946 г. заснаваў Літаратурны інстытут у Рыме, у 1947 г. — польскі штомесячнік “Культура” ў Парыжы. Паступова гэтае прэстыжнае і, натуральна, забароненае ў сацыялістычнай Польшчы выданне абрастала дадаткамі: “Бібліятэкай Культуры”, у якой выходзіць нямала кніг, звязаных з Беларуссю, “Зэшытамі гісторычнымі ”. Паступова прыходзіла міжнароднае прызнанне, уручаліся прэстыжныя ўзнагароды. Ежага Гедройца выбіраюць ганаровым доктарам Ягелонскага універсітэта ў Кракаве, Беластоцкага і Вроцлаўскага універсітэтаў.

Нягледзячы на аддаленасць у прасторы і часе, Ежы Гедройц памятае пра Беларусь і беларусаў: дапамагае ім стыпендыямі, публікуе ў “Культуры” артыкулы ў абарону новай самастойнай дзяржавы. А калі адзін з беларускіх ліцэяў на Беласточчыне аказаўся без электрычнасці, бо не было чым заплаціць даўгі, Ежы Гедройц дапамог уласнымі грашыма.

Ежага Гедройца можна лічыць правідцам, пракорам. Яшчэ ў саракавыя гады, калі польскія кансерватары ў эміграцыі прад‘яўлялі настойлівыя прэтэнзіі на “ўсходнія крэсы”, рэдактар “Культуры” папярэджваў іх, што калісьці там будуць Літва, Беларусь і Украіна. І словы яго збыліся. Гады з два назад, калі ў Вільнюсе праходзіла міжнародная навуковая канферэнцыя з нагоды саміта кіраўнікоў дзяржаў Цэнтральнаўсходняй Еўропы, устаў прафесар Леан Брадоўскі з Варшавы (дарэчы, таксама ўраджэнец Мінска, рэдактар іншага папулярнага часопіса — “Літуанія”) і прапанаваў аддаць належнае праroку з прыгарада Парыжа, Мэзон Ляфіт, дзе з 1947 г. месціцца рэдакцыя “Культуры”. Шматмоўная і шматэтнічная зала адказала гучнымі воплескамі.

Ежы Гедройц, сам чалавек культурнага пагранічча, дбае пра тое, каб яно заўсёды было пагранічам згоды і ўзаемаразумення.

***Томаш Нягодзіш**, дырэктар Польскага інстытута ў Мінску*



## У НЕКАЛЬКІ РАДКОЎ

Капітула Вясёлкавага Лаўра (Варшава) 25 кастрычніка 1999 г. прызнала беларускаму пісьменніку ***Сакрату Яновічу***, які жыве ў Крынках на Беласточчыне, сваю вышэйшую ўзнагароду — Вясёлкавы лаўр. У лісце, падпісаным сакратаром Капітулы Кшыштофам Гарватоўскім, гаворыцца, што падставай для ўзнагароды сталі “шматлікія публікацыі, прасякнутыя жаданнем ліквідацыі ўсялякіх гістарычных крыўдаў, нанесеных беларускаму насельніцтву пад польскай уладай”.





## МОЎНЫ ДАПАМОЖНІК ДЛЯ ЎЗАЕМАРАЗУМЕННЯ З БЕЛАРУСКІМІ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫМІ ПРАЦАЎНІКАМІ АД ГАНСА ЛЁЕ

Кніга “Sprachhelfer für die Verständigung mit weißruthenischen Landarbeitern” была знойдзена мной у нямецкай Дзяржаўнай бібліятэцы ў Берліне. Падрыхтоўка, стварэнне, друк і лёс гэтага слоўніка амаль невядомы на Беларусі, але факт створанай і па сёння не асэнсаванай лексікаграфічнай распрацоўкі заслугоўвае ўвагі.

Перакладны нямецка-беларускі “Моўны дапаможнік” быў падрыхтаваны да друку ў Берліне ў 1942 г. у выдавецтве братоў Радзецкі. Узнікненне кнігі такога характару не было выпадковым. У саракавыя гады XX ст. быў распрацаваны і выдадзены шэраг перакладных нямецка-іншамоўных слоўнікаў-дапаможнікаў. Першым у гэтай серыі з’явілася выданне для французскіх ваеннапалонных. Складальнікамі яго былі нямецкія студэнты, якія спалучалі навучанне з працай на прадпрыемстве, і пад час аказання імі штогоднай дапамогі па збору ўраджаю вырашылі скарыстаць свае практычныя веды і ўкласці перакладны “Моўны дапаможнік для замежнікаў” (1). Так, дзякуючы студэнцкай ініцыятыве, з’явілася першая ў гэтай серыі перакладная нямецка-французская кніга. Па завярэнню Ганса Лёе, аўтара наступных выданняў, яна была ўхвалена грамадскасцю і атрымала статус вядомага ва ўсіх колах перакладнога дапаможніка. Практычная каштоўнасць ўкладзенай распрацоўкі не выклікала сумненняў, што і падштурхнула стварыць аналагічныя кнігі для рускіх і англійскіх ваеннапалонных. Тыраж кожнага выдання, якімі займалася выдавецтва братоў Радзецкі, складаў каля 10 000 экземпляраў. Перакладныя двухмоўныя слоўнікі былі невялікімі па аб’ёму: нямецка-рускі — 40 старонак, нямецка-англійскі – 38 старонак. Ва ўступе да новых кніг аўтар адзначае наяўнасць і распрацоўку дадатковых раздзелаў “Жыццё ў лагеры” (для вартавых), “Рабочыя інструменты” (для працуючых на будоўлях), “Руска-нямецкі” (найважнейшыя моўныя выразы для рускіх палонных) і “Англійска-нямецкі” (для англійскіх палонных), дапаможнікі былі адрасаваны, з аднаго боку нямецкім сельскагаспадарчым работнікам і гаспадарам, а з другога — замежнікам. Для таго, каб спрасціць карыстанне кнігай, загалоўкі былі надрукаваны адразу на дзвюх мовах.

Выхаду ў свет нямецка-беларускай кнігі было прысвечана паведамленне рэдакцыі берлінскай газеты “Беларускі работнік” ад 16 красавіка 1944 г. (нядзельны выпуск). На старонках газеты з’явілася інфармацыя такога характару: “Выйшаў з друку і ёсьць у продажы ў большай колькасьці невялікі Нямецка-беларускі слоўнік, апрацаваны Гансам Лёе. Слоўнік мае 50 балонак друку і можа

служыць як дапаможнік, асабліва карысны для работнікаў сельскае гаспадаркі. Адзін экзэмпляр без перасылкі каштуе 70 фэнігаў. Пры гуртовых заказах гэткая скідка: ад 10 экз. — 65 фэн., ад 100 экз. — 60 фэн., ад 1000 экз. — 55 фэн." (2).

Перакладная нямецка-беларуская кніга была апошняй у серыі "Моўных дапаможнікаў". Аўтар адзначаў ва "Уступе", што ў выданні быў ўлічаны вопыт стварэння аналагічных распрацовак і тэматычна пашыраны слоўнікавы матэрыял. Унесены змены і ў структуру слоўніка. Ён складаўся з дзвюх частак. Першая ахоплівала 23 раздзелы, другая — 8 раздзелаў.

Структура слоўніка спрошчаная. Асобнае нямецкае рэестравае слова перакладалася, як правіла, адным беларускім, рэдка прыводзіліся сінонімы. Адсутнічала граматычная і стылістычная характарыстыка слоў, не было прыкладаў-ілюстрацый. Практычныя мэты ўкладання слоўніка вызначылі і яго спецыфіку — не толькі як дапаможніка, але і як размоўніка. Сродкамі беларускай мовы перадаваліся як асобныя нямецкія словы, словазлучэнні, так і цэлыя сказы нямецкай мовы.

Трэба прызнаць значэнне гэтага слоўніка ў тым, што ён з'явіўся спробай апісання лексічных рэсурсаў дзвюх моваў. Час стварэння лексікаграфічнай распрацоўкі дыктаваў практычны характар дапаможніка, які быў прызначаны, як і ўсе папярэднія выданні, для кантактаў з "прымусовай рабочай сілай". Па аб'ёму і зместу ён і выконваў гэту задачу: мінімум слоў і выразаў, каб атрымаць адказ на распараджэнне нямецкага гаспадара.

Сыходзячы з адшуканых матэрыялаў, немагчыма высветліць, наколькі шырока выкарыстоўвалі слоўнік. Вядома толькі, што ў нямецкай Дзяржаўнай бібліятэцы ён знаходзіцца ў адзінкавым экземпляры і па сёння не стаў яшчэ здабыткам беларускай лексікаграфічнай навукі.

***Кацярына Любецкая**, супрацоўніца Цэнтра імя Ф. Скарыны*

(1) Zur Loye H., Nossow V. Sprachhelfer fьr die Verstдndigung mit russischen Kriegsgefangenen. Berlin, 1942. S. 3.

(2) Беларускі работнік (Берлін), 1944. 16 крас.

## З НАДРУКАВАНАГА



***Юзаф Пілсудскі** — пра сваю нацыянальную належнасць*

"Я заўсёды гавару, што не з'яўляюся палякам, таму што мне часта трэба было б за паноў [членаў урада. — *Рэд.*] саромецца […] У Польшчы ніколі нельга абмежавацца толькі адной гутаркай. Толькі я гавару аднойчы, але не з'яўляюся палякам…"

Sławoj Składkowski. Strzępy meldunków. Warszawa, 1936. S. 279.

Прыведзеная цытата набывае сэнс, калі прыгадаць, што на адным з допытаў, якія праводзіліся царскімі ўладамі, Ю. Пілсудскі назваў сябе беларусам.

*Надаслаў **Аляксей Анішчык** (Вільнюс)*





## СТАРОНКІ БУДУЧАГА ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНАГА ДАВЕДНІКА

### БУДЫКА МІХАІЛ



***Будыка Міхаіл Іванавіч*** *(20.01.1920, Гомель), геафізік, член-карэспандэнт (1964), акадэмік Расійскай акадэміі навук (1992).*

Пасля заканчэння ў 1942 г. Ленінградскага політэхнічнага інстытута М. Будыка працаваў у Галоўнай геафізічнай абсерваторыі, дзе з 1954 да 1972 г. выконваў абавязкі дырэктара. З 1975 г. загадваў аддзелам даследаванняў клімату Дзяржаўнага гідралагічнага інстытута ў Ленінградзе.

Галоўныя тэмы, якім прысвечаны навуковыя працы М. Будыкі, знаходзяцца ў сферы фізічнай кліматалогіі, біякліматалогіі і актынаметрыі. Асабліва актыўна вывучаў ён цеплавы баланс зямной паверхні. Сярод найбольш значных вынікаў яго даследаванняў адзначаецца сфармуляваны ў 1956 г. сумесна з А. А. Грыгор’евым перыядычны закон геаграфічнай занальнасці.

М. Будыка — аўтар больш за 250 навуковых прац, у тым ліку 13 манаграфій. На пяці замежных мовах выйшлі 23 яго кнігі (усе яны з’яўляюцца перакладамі з рускіх выданняў). Сярод іх — “Цеплавы баланс зямной паверхні” (1956), “Клімат і жыццё” (1971), “Змяненні клімату” (1974), “Глабальная экалогія” (1977), “Клімат у мінулым і будучым” (1980), “Эвалюцыя біясферы” (1984), “Гісторыя атмасферы” (1985, у сааўтарстве), зборнік эсэ “Падарожжа ў часе” (1990).

М. Будыка ўзнагароджаны залатым медалём Сусветнага метэаралагічнага таварыства, залатым медалём Літке Усерасійскага геаграфічнага таварыства і іншымі медалямі і прэміямі айчынных і зарубежных навуковых арганізацый. Лаўрэат Ленінскай прэміі (1958). Выбраны ганаровым членам Расійскага геаграфічнага таварыства, Амерыканскага метэаралагічнага таварыства.

***Аляксандр Сімакоў*** *(Гомель)*

# КАВАЛЕНКА НАДЗЕЯ



***Каваленка Надзея Канстанцінаўна*** *(19.12.1937, Мінск), доктар біялагічных навук (1991), лаўрэат Дзяржаўных прэмій Украіны (1989, 1997).*

Надзея Каваленка ў 1955 г. з сярэбраным медалём скончыла сярэднюю школу. Вучылася ў Мінскім дзяржаўным медыцынскім інстытуце (1955–1961). Працавала ў Беларускім навукова-даследчым санітарна-гігіенічным інстытуце Міністэрства аховы здароўя Беларусі (1961–1966). У 1966 г. пераехала ў Кіеў. Далейшая навуковая дзейнасць Н. Каваленка звязана з Інстытутам мікрабіялогіі і вірусалогіі НАН Украіны — там яна вучылася ў аспірантуры (1966–1969), абараніла кандыдацкую дысертацыю (1969). З 1986 г. працуе вядучым навуковым супрацоўнікам аддзела фізіялогіі прамысловых мікраарганізмаў ІМВ Нацыянальнай акадэміі навук Украіны.

Наша суайчынніца ўзначальвае групу па вывучэнню біялогіі малочнакіслых бактэрый. Навуковыя працы, якія выконваюцца пад яе кіраўніцтвам, былі падставай для пастаноў урадавых органаў аб развіцці новых напрамкаў у біялогіі і біятэхналогіі. Н. Каваленка ўпершыню прапанавала экалагічныя падыходы ў сістэматыцы малочнакіслых бактэрый, даследавала мікрабіялагічныя аспекты феномена даўгалецця пры рабоце ў складзе савецка-амерыканскай комплекснай экспедыцыі на працягу 1978–1981 гг. Распрацавала крытэрыі адбору прамысловых штампаў малочнакіслых бактэрый з высокай біялагічнай актыўнасцю, сабрала калекцыю новых штампаў гэтых мікраарганізмаў, на аснове якіх атрыманы лячэбна-прафілактычныя прэпараты. Н. Каваленка — аўтар 135 навуковых прац, у т. л. адной манаграфіі. Мае 11 аўтарскіх пасведчанняў і 9 патэнтаў. Падрыхтавала чатырох кандыдатаў навук. У выніку шматгадовых даследаванняў імі афармлены і прададзены ў Данію і Паўднёва-Афрыканскую Рэспубліку дзве ліцэнзіі на тэхналогію атрымання кісламалочнага прадукта “Гералакт”.

Н. Каваленка ўзнагароджана залатымі і бронзавымі медалямі ВДНГ СССР (1983, 1986, 1987, 1989), медалямі “За працоўную доблесць” (1986), “У памяць 1500-годдзя Кіева” (1982), “Ветэран працы” (1985), трыма Ганаровымі граматамі Прэзідыума НАНУ і Цэнтральнага камітэта прафсаюзаў Украіны. Мае ганаровае званне “Вынаходнік СССР” (1990). Жыве ў Кіеве.

***Ірына Тамільчык***

## КАЛЬВІШ ЗОЯ



***Кальвіш Зоя Аркадзьеўна** (8.02.1947, в. Ліпава Міёрскага р-на Віцебскай вобл.), беларускі грамадскі дзеяч у Латвіі.*

З. Кальвіш нарадзілася ў беларускай сялянскай сям'і. Яе бацька быў музыкантам, спрыяў раскрыццю музычных здольнасцей дачкі. У 1961 г. скончыла сямігодку, вучылася ў Дрысенскай (цяпер Верхнядзвінская) і Міёрскай сярэдніх школах. Адзінаццаць класаў скончыла ў 1965 г. Набыла прафесію швеі. Вучылася на курсах баяністаў-масавікоў у Браслаўскай музычнай школе. Працавала кіраўніком мастацкай самадзейнасці мясцовага калгаса. У 1968 г. выйшла замуж. Пераехала ў Міёры, арганізавала там мастацкую самадзейнасць. У 1977 г. пераехала ў Рыгу. У 1987 г. скончыла планава-эканамічнае аддзяленне Рыжскага будаўнічага тэхнікума.

Наша суайчынніца мае добрыя музычныя здольнасці, выконвае беларускія народныя песні. Знаўца гісторыі беларускай песенна-сцэнічнай культуры, прапагандуе яе сярод беларусаў Латвіі. З 1989 г. прымае ўдзел у рабоце Беларускага таварыства "Прамень" у Рызе. Была членам рэдакцыйнай калегіі газеты "Прамень", удзельнічала ў фальклорным ансамблі беларускай народнай песні "Надзея". У 1993 г. выбрана мастацкім кіраўніком ансамбля, які пад яе кіраўніцтвам з поспехам выступаў у розных гарадах Латвіі і Беларусі, удзельнічаў у многіх конкурсах і фестывалях, у т. л. Днях беларускай культуры ў Даўгаўпілсе, фестывалях творчых калектываў нацыянальных меншасцей Латвіі "Латвіяс вайнатэ". З. Кальвіш імкнецца да пашырэння рэпертуару ансамбля, адкрыцця новых талентаў.

***Лявон Шакавец** (Рыга)*



## У НЕКАЛЬКІ РАДКОЎ

Сустрэча з беларускім паэтам ***Станіславам Валодзькай***, які жыве ў Даўгаўпілсе (Латвія) і ўзначальвае там беларускую суполку "Уздым", адбылася на яго радзіме, у вёсцы Падольцы Астравецкага раёна. Гучалі вершы і песні на словы земляка. Паэт расказаў пра жыццё беларускай дыяспары ў Латвіі.

## МІХАЛЮК АЛЕНА



***Міхалюк*** *(Марцінкевіч)* ***Алена*** *(15.05.1930, в. Лонскія Браслаўскага пав. Віленскага ваяв., цяпер Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобл.), беларускі грамадскі дзеяч у Вялікабрытаніі.*

А. Міхалюк нарадзілася ў сялянскай сям'і. Вучылася ў польскай пачатковай школе (1937–1939), потым — у беларускай пачатковай школе. У час Другой сусветнай вайны была вывезена на работы ў Германію. Пасля вайны знаходзілася ў беларускім лагеры для перамешчаных асоб у Ватэнштэце (Заходняя Германія). Там вучылася ў беларускай гімназіі, дзе ўдзельнічала ў скаўцкім руху. У 1947 г. з маці пераехала ў Англію. Працавала на тэкстыльнай фабрыцы ў г. Брэдфордзе. У 1949 г. выйшла замуж за дзеяча беларускай эміграцыі Яна Міхалюка і разам з сям'ёй у 1966 г. пераехала жыць у Лондан. Працавала ў беларускім інтэрнаце для хлопцаў імя св. Кірылы Тураўскага, у магазіне.

А. Міхалюк прымае актыўны ўдзел у культурна-грамадскім жыцці беларускай дыяспары ў Вялікабрытаніі. Належыць да брацтва Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. У 1982 г. была прынята ў сябры Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. З'яўляецца сябрам Англа-беларускага таварыства. Удзельнічала ў рабоце Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане. У 1997–1998 гг. — старшыня Галоўнай управы Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі. 11 верасня 1999 г. зноў перавыбрана на гэту пасаду.

***Надзея Лісоўская*** *(Манчэстэр)*

## СЭНЮХ ЧЭСЛАЎ

***Сэнюх Чэслаў*** *(9.7.1930, мяст. Любча Навагрудскага пав. і ваяв., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл.), перакладчык, паэт, публіцыст.*

Ч. Сэнюх нарадзіўся ў беларускай сям'і. Яго бацькі добра ведалі польскую, украінскую і беларускую мовы, выхоўвалі любоў да іх у сына. Будучы паэт вучыўся ў Любчанскай сямігадовай беларускай школе (1941–1944), дзе авалодаў беларускай і рускай мовамі. Пасля рэпатрыяцыі ў 1950 г. здаў экзамены на атэстат сталасці ў гімназіі № 1 імя Зыгмунта Аўгуста ў Беластоку. Вучыўся ў Варшаўскім універсітэце на рускім аддзяленні філфака (1950–1954).

З 1951 да 1972 г. Ч. Сэнюх працаваў дыктарам і рэдактарам на Польскім радыё. У час работы ў польскай рэдакцыі радыё "Масква" (1965–1969) займаўся перакладамі з усходнеславянскіх моваў. У 1972–1974 гг. рэдагаваў рускамоўны дадатак да польскага штотыднёвіка "Przyjaźń" з урокамі польскай мовы для рускіх чытачоў. У 1975–1988 гг. працаваў у рэдакцыі Варшаўскай кінастудыі дакументальных фільмаў. На працягу 1988–1989 гг. Ч. Сэнюх быў ініцыятарам і галоўным рэдактарам часопіса "Tłumacz" пры Таварыстве польскіх перакладчыкаў, членам якога з'яўляецца з 1983 г. На журналісцкай пенсіі з 1996 г.

Беларускай культурай Ч. Сэнюх пачаў актыўна займацца ў 70-я гг. — працаваў над перакладамі беларускай паэзіі і прозы для часопіса "Literatura radziecka", які выдаваўся ў Маскве. Сярод яго першых перакладаў — верш Я. Купалы "Прарок" (1982), апавяданне Я. Брыля "Хуткі Нёман" (1989). На творчым рахунку Ч. Сэнюха пераклады рамана У. Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" (1989), аповесці В. Быкава "Аблава" (1991), паэм С. Законнікава (1996), а таксама вершаў М. Танка, В. Зуёнка, У. Арлова, С. Адамовіча. Дасканалае валоданне беларускай мовай і здольнасць перакладчыка захаваць дакладнасць арыгінала без парушэння вершаванага рытму падштурхнулі Ч. Сэнюха да перакладу эпічнай паэмы Я. Коласа "Новая зямля", над якім ён працуе з 1991 г. Выступае з вострымі публіцыстычнымі артыкуламі на беларускія тэмы на старонках перыядычных выданняў "Gazeta Polska", "Obóz", "Czasopis", "Magazyn Literacki", "Наша слова", "Ніва", "Літаратура і мастацтва" і інш.



З 1995 г. Ч. Сэнюх з'яўляецца членам замежнага беларускага ПЭН-клуба. У 1996 г. узнагароджаны прэміяй POLCUL (Аўстралія) за ўклад у развіццё беларускай культуры ў Польшчы. Жыве ў Варшаве. Часта наведвае Беларусь. Актыўна ўдзельнічае ў рабоце Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.

***Юрый Вашкевіч*** *(Варшава)*



## У НЕКАЛЬКІ РАДКОЎ

Кніга вядомай беларускай пісьменніцы ***Святланы Алексіевіч*** "Чарнобыльская малітва", якая нядаўна вышла ў французскім перакладзе, удастоена прэстыжнай літаратурнай прэміі "Сведкі міру", установленай "Радыё Франс Насіяналь". Падзея знайшла шырокі водгук у парыжскім друку.

## НОРБЕРТ РАНДАЎ

З нямецкім беларусістам Норбертам Рандавым мне пашчасціла сустракацца неаднойчы: і ў Мінску, куды ён прыязджаў на міжнародныя кангрэсы і канферэнцыі беларусістаў, па запрашэннях Саюза беларускіх пісьменнікаў, проста ў госці да свайго швагра, перакладчыка Уладзіміра Чапегі, і ў Берліне, дзе ён арганізоўваў Дні беларускай літаратуры, гасцяваў нас у кватэры, дзе адзін пакой быў застаўлены кнігамі беларускімі, другі — нямецкімі, трэці — балгарскімі.



І заўсёды ў нас было многа гаворкі: што варта перакладаць, як там пажываюць сябры і знаёмыя — Ян Скрыган, Янка Брыль, Уладзімір Караткевіч, Анатоль Кудравец, Аляксей Гардзіцкі.

Норберт Рандаў, яго сястра Гундула, швагер Уладзімір, які цяпер таксама жыве ў Германіі, — гэта цэлая эпоха ў гісторыі беларуска-нямецкага ўзаемаперакладу. Яны прысвоілі нямецкаму чытачу “Абеліск” і “Здраду” Васіля Быкава, творы Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага, Каруся Каганца, Аляксея Кудраўца, Вячаслава Адамчыка. Норбертам Рандавым складзены анталогіі беларускай прозы “Буслы на балоце”, “Маладая сасна”, напісаны шматлікія артыкулы пра беларускую літаратуру, прадмовы да кніг. І заўсёды ён пранікае ў сутнасць іншамоўнага твора, імкнецца данесці да чытача яго мастацкія асаблівасці.

Цесныя сувязі ў Норберта Рандава з беларускім ПЭН-цэнтрам. Ён стаў яго зарубежным сябрам. На Другім міжнародным кангрэсе гэтага цэнтра выступіў з дакладам “Свабода і адказнасць” (тэкст апублікаваны ў Мінску ў 1996 г.).

Наш нямецкі калега нарадзіўся семдзесят год назад — 27 лістапада 1929 г. Закончыўшы Берлінскі універсітэт, выкладаў там балгарскую мову. Потым, здаецца за анекдот пра Вальтэра Ульбрыхта, быў надоўга выключаны з грамадскалітаратурнага жыцця. З уласнай жонкай, якая не магла свабодна прыязджаць з Заходняга Берліна ва Усходні, сустракаўся пераважна ў Балгарыі. Але, нягледзячы ні на што, упарта працаваў. Працуе цяпер. Будзе працаваць. Таленавіта, добрасумленна, упарта.

***Адам Мальдзіс***

## ДЗІЯНА ЗІБЕРТ

***Дзяіна Зіберт*** *(19.08.1957, Берлін, Германія), нямецкая славістка і беларусістка, доктар гістарычных навук (1998).*

У 1964–1975 гг. Д. Зіберт вучылася ў пачатковай і сярэдняй школе. Пасля заканчэння яе працавала кіраўніком аб’яднанай бібліятэкі культурнага цэнтра ў Леверкузене (1975–1985). У 1985–1991 гг. — студэнтка Інстытута славістыкі Кёльнскага універсітэта, Семінара па гісторыі Усходняй Еўропы. Вывучала гісторыю эканамічных і сацыяльных навук, а таксама славянскія і іншыя мовы — беларускую, польскую, рускую, новагрэчаскую. Праявіла цікавасць да праблем беларускага Палесся.



З 1988 г. — навуковая супрацоўніца Семінара па гісторыі Усходняй Еўропы Кёльнскага універсітэта. У 1991 г. паспяхова абараніла магістарскую працу на тэму “Сельская гаспадарка ў польскай і савецкай частках беларускага Палесся (1921–1939). Супастаўленне”. З сакавіка 1991 па чэрвень 1993 г. — удзельнік навуковага праекта “Бібліяграфія па гісторыі побыту Расійскай імперыі 1861–1914 гг.” Нямецкага даследчага таварыства (Мюнхен; Берлін; Хельсінкі; СПб.). З верасня 1992 па чэрвень 1993 г. — стыпендыятка Нямецкай акадэмічнай службы абмену і БДУ, рыхтавалася да доктарскай дысертацыі на тэму “Жыццёвая стратэгія сялян у Беларускай ССР (1921–1941). Разбурэнне патрыяльхальнай сямейнай гаспадаркі”. З верасня 1993 па снежань 1994 г. — супрацоўніцтва з фірмай Багданавай “Кніжны імпарт” (па распаўсюджванню ўсходнееўрапейскай кнігі). Са студзеня 1995 па студзень 1997 г. — навуковы супрацоўнік-асістэнт Семінара па гісторыі Усходняй Еўропы Кёльнскага універсітэта, кіраўнік уводных семінараў па гісторыі Польшчы, Беларусі, Украіны. У чэрвені 1997 г. абараніла доктарскую дысертацыю на філасофскім факультэце Кёльнскага універсітэта. З 1999 г. — загадчыца Фонда Льва Копелева, дзе займаецца праблемамі ўзаемасувязей культур Усходняй Еўропы (Расія) і Германіі.

Д. Зіберт зрабіла наступныя публікацыі: “Гісторыя быту ніжэйшых слаёў у Расійскай імперыі. 1861–1917. Каменціраваная бібліяграфія назваў тагачасных публікацый і паведамленне пра навуковае даследаванне” (сумесна з А. Рустэмаер), выдадзена ў 1997 г. у прэстыжнай славістычнай серыі “Крыніцы і даследаванні па гісторыі Усходняй Еўропы”. У кнігу ўключаны і шматлікія

публікацыі пра Беларусь такіх аўтараў, як А. Багдановіч, М. Доўнар-Запольскі, Ю. Крачкоўскі, А. Пшчолка, Е. Раманаў, П. Шэйн і інш.; манаграфія “Жыццёвая стратэгія сялян ў Беларускай ССР (1921–1941)” (Штутгарт, 1998. 416 с.), рэцэнзія на якую надрукавана ў пазамінулым нумары “Кантактаў і дыялогаў”.

Акрамя таго, Д. Зіберт з’яўляецца аўтарам некалькіх публікацый, звязаных з Беларуссю, — такіх, як артыкулы “Аб’яднoўвай і пануй: Уздым і заняпад хутароў ва Усходняй Беларусі (1922–1940)”, “Юзаф Абрэмбскі і арганаўты балот Заходняга Палесся”; рэцэнзіі на кнігі У. Адамушкі “Палітычныя рэпрэсіі 20–50-х гг. на Беларусі” (Мн., 1994), Д. Гольбругe “Беларусь” (Мюнхен, 1994). У час працы ў Мінску над архіўнымі матэрыяламі пазнаёмілася з беларускімі гісторыкамі, прыняла ўдзел ва Усебеларускай канферэнцыі гісторыкаў “Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь (новыя канцэпцыі і падыходы)” (1993), выступіла там з дакладам “Пасіўнасць як непрыняцце сялянамі Беларусі калектывізацыі”. Работа ў Мінску і кантакты з беларускімі вучонымі значна дапамаглі ёй у даследаванні стратэгіі беларускага сялянства ў час калектывізацыі.

Д. Зіберт прымае актыўны ўдзел у экалагічным руху “Грынпіс”, з’яўляецца актыўным членам нямецкай партыі “зялёных” і кіраўніком аднаго з яе аддзелаў у Кёльне. Акрамя таго, энергічна займаецца прапагандай і распаўсюджваннем усходнеславянскай кнігі, у тым ліку і беларускай.

***Уладзімір Сакалоўскі***



## АД НАС АДЫШЛІ



### ЭЛЕНА ГРЫНАВЕЦКЕНЕ

Мовазнаўцы Мінска са смуткам даведаліся, што 29 верасня 1999 г. у Вільнюсе адышла ў іншы свет доктар гуманітарных навук Элена Грынавецкене, высокаадукаваны літоўскі дыялектолаг. Яна ўклала многа энергіі ў вывучэнне моўных балта-славянскіх узаемаадносін, беларуска-літоўскага памежжа.

Аддзел дыялекталогіі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі цесна супрацоўнічае з дыялектнымі цэнтрамі Польшчы і Літвы. У нас выпрацавалася агульная праграма, вызначылася сетка населеных пунктаў для вывучэння гаворак на тэрыторыі памежных дзяржаў, у тым ліку ў Беларусі — у Гервятах, Опсе. У час сумесных экспедыцый даследавалася ўзаемадзеянне суседніх моваў індаеўрапейскай сям’і ў сінхронным і дыяхронным планах. Меркавалася стварыць беларуска-літоўскі “тэрытарыяльны пояс” і вывучаць яго гаворкі ў розных аспектах. Вялікая надзея ўскладалася на стварэнне “Слоўніка” пагранічнай беларуска-латышска-літоўскай зоны.

Першая наша беларуска-літоўская экспедыцыя адбылася ў 1966 г. Потым былі заключаны дагаворы, якія дзейнічалі ў 1976–1990 гг. І заўсёды актыўным удзельнікам нашых сумесных экспедыцый з'яўлялася Элена Грынавецкене. Яна чула адгукалася на просьбы беларускіх навукоўцаў і нават сялян. Памятаецца такі напаўанекдатычны выпадак. Адзін калгаснік паскардзіўся літоўскай госці, што нідзе не можа купіць сякеру. Элена Грынавецкене купіла яе ў Вільнюсе і несла ў сумцы ў самалёт, які накіроўваўся ў Мінск. Пры праверцы ўзнік інцыдэнт: нашто вучонай "халодная зброя"?!

У час экспедыцый мы аб'ездзілі 159 вёсак Пастаўскага, Браслаўскага, Мядзельскага, Астравецкага, Швянчонскага і іншых раёнаў. Наша нязменная спадарожніца Элена Грынавецкене актыўна працавала над выяўленнем літуанізмаў, давала навуковыя кансультацыі, тлумачэнні. Мы пераканаліся, што на ўказаным беларускамоўным абшары пануе беларуска-польска-літоўска-рускі білінгвізм, што жыхары тут лёгка пераходзяць на мову субяседніка, госця.



Светлай памяці Элена Грынавецкене плённа працавала на ніве беларускай дыялектнай лексікаграфіі. Каля дваццаці гадоў яна аддавала свае веды і талент стварэнню пятага выпуска "Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча". На працягу сямі гадоў яна працавала ў аўтарскім калектыве ўкладальнікаў гэтага агромністага выдання. Элена Іонаўна пастаянна і ва ўсім слоўніку ўдакладняла значэнні шматзначных слоў, знаходзіла паралелі да беларускіх дыялектных слоў у балтыйскіх і некаторых германскіх мовах. Яна выканала вялікую работу па рэдагаванню рукапісу пятага тома слоўніка (1986).

Элена Іонаўна, наша Эляна, заўсёды добразычліва ставілася да поспехаў і патрэб беларускіх дыялектолагаў. Як вучоны і чалавек яна сардэчна вітала апублікаванне кожнага тома "Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак" (1993–1998) у пяці тамах. Ёю напісана навуковая рэцэнзія, дзе аб'ектыўна, з захапленнем прааналізавана "найвялікшая скарбніца беларускага мовазнаўства". На жаль, не здзейсніўся яе намер напісаць разгорнутую рэцэнзію на атлас.

Наша сяброўка даражыла той чыстай сардэчнасцю, якая выяўлялася з нашага боку. Згадваецца такі выпадак. У прыватным лісце я ўказаў яе навуковае званне. У наступным лісце Элена папрасіла не ўжываць яго болей. "Милости прошу, — не называйте меня так официально, доктором. Мне кажется, что это —

никому не нужно, лучше обращаться друг к другу, как обращались, по-прежнему, как раньше” (20. 04.1999).

Скажу некалькі слоў пра жыццёвы шлях Элены Грынавецкене. Нарадзілася яна 10 чэрвеня 1925 г. у вёсцы Клішай недалёка ад горада Юбаркас. У 1956 г. закончыла аспірантуру пры Вільнюскім універсітэце, затым абараніла дысертацыю. Аўтар каля 90 прац па дыялекталогії і тапаніміцы. Дзякуючы яе клопатам выйшаў даведнік “Найменні рэк і азёр Літоўскай ССР” (1963). Удзельнічала ў працы над “Атласам літоўскай мовы” і “Слоўнікам літоўскай мовы”. Была, як сказана ў некралогу ў часопісе “Гімтойі калба”, “Вялікай Працаўніцай”.

У нашых сэрцах захаваецца светлая памяць пра выдатнага чалавека і вучонага — Элену Грынавецкене.

***Іван Яшкін**, старшы навуковы супрацоўнік Цэнтра імя Ф. Скарыны*



## З НАВАГОДНЯЙ ПОШТЫ

Я толькі што вярнулася з Сафіі, дзе даведалася пра пераклад беларускага верша С. Новіка-Пеюна на эсперанто. Вельмі шкадую, што раней нічога не атрымлівалася — мае знаёмыя, якія сцвярджалі, што ведаюць мову эсперанта, не маглі як след перакласці назву выдання, таму калі давялося трапіць у Нацыянальную бібліятэку ў Сафіі, я шукала не тое. Цяпер я зрабіла ксеракопію, якую дашлю ў Якуцк беларусісту Алесю Баркоўскаму, але хачу таксама і Вам падаць назву гэтай унікальнай публікацыі: KANTO DE JUNAJ ESPERANTISTOJ // PACO. Oficiala organo de la mondpaca esperanto-movado. VI-a jaro. N 68–69. Bulgara eldono. Julio-Augusto 1959. Унізе перакладу толькі імя аўтара: Sergo Novik.

Да сказанага дадам, што ў апошні час двойчы выступіла на канферэнцыях з дакладамі па беларускай праблематыцы: “Габраўскі гумар і Дом гумару і сатыры ў Беларусі” і “Крыж Лазара Богшы — восем вякоў тварэнню”.

***Венета Георгіева-Козарава** (Габрава)*

~ ~ ~

Хочацца паведаміць чытачам “Кантактаў і дыялогаў”, што 3 снежня адбылося пасяджэнне камітэта Нацыянальнай асацыяцыі беларусістаў пад старшынствам Уладзіміра Конана. Асноўным пытаннем была падрыхтоўка да III Міжнароднага кангрэса беларусістаў.

На пасяджэнні ў сябры МАБ былі прыняты беларускія навукоўцы Кацярына Архіпава, Іван Багдановіч, Ала Барчук, Таццяна Ганчарова-Цынкевіч, Анатоль Жытко, Генадзь Космач, Уладзімір Куніцкі, Васіль Кушнер, Ева Лявонава, Вікторыя Ляшук, Мікалай Мацюх, Анатоль Пяшко, Наталля Старжынская, Мікалай Сяменчык, Тамара Тарасава, Уладзімір Тугай, Галіна Тычка, Валянціна Федаросава, Анатоль Федарук, Віктар Цітоў, Марыя Шаўлоўская, а таксама суполка правазнаўцаў і гісторыкаў.

***Таццяна Рошчына**, сакратар асацыяцыі*





## ТЕТЯНА РУДНІЦЬКА. ЕТНІЧНІ СПІЛЬНОТИ УКРАЇНИ: ТЕНДЕНЦІЇ СОЦІАЛЬНИХ ЗМІН. КИЇВ, 1998. 176 с.




Дадзеная манаграфія нядаўна выйшла ў свет у сталіцы суверэннай Украіны пад грыфам Інстытута сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук. У рэцэнзуемай кнізе ўпершыню ва ўкраінскай гуманітарнай навуцы зроблена спроба грунтоўнага аналізу разнастайных праблем, звязаных з этнасацыяльнай дынамікай нацыянальных супольнасцей Украіны на працягу 1950–1980-х гг. Выданне прызначаецца ў першую чаргу для навуковых работнікаў (сацыёлагаў, этнолагаў, гісторыкаў), а таксама для выкладчыкаў і студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў.

Манаграфія складаецца з двух раздзелаў: “Канцэптуальная аснова і метады даследавання этнасацыяльных змен” і “Характарыстыкі сацыяльнай дынамікі этнічных супольнасцей Украіны”, якія ў сваю чаргу падраздзяляюцца на шэраг параграфаў. У кнізе выкладзены асноўныя вынікі тэарэтычнай распрацоўкі і практычнага засваення канцэпцыі сацыяльнай дынамікі, з дапамогай якой аўтару ўдалося атрымаць новыя дадзеныя аб тэндэнцыях і тэмпах сацыяльных змен, уласцівых украінскаму этнасу і найбольш буйным этнічным групам Украіны ў другой палове XX ст.

У дадзеным навуковым даследаванні на аснове аналізу значнай колькасці гістарычных крыніц, статыстычных звестак і вынікаў сацыялагічных апытанняў разглядаюцца механізмы і спецыфіка ўплыву этнагістарычных, дэмаграфічных і этнакультурных фактараў на сацыякультурны і працоўны патэнцыял асноўных этнічных супольнасцей Украіны. У цэнтры ўвагі аўтара кнігі знаходзяцца пытанні асаблівасці і дынамікі адукацыйна-асветнага ўзроўню, працоўнай занятасці, моўнай кампетэнцыі поліэтнічнага насельніцтва сучаснай Украіны. Даволі падрабязна разглядаецца прафесійная, кваліфікацыйная і галіновая структура як усяго працаздольнага насельніцтва, так і сямі найбуйнейшых этнічных супольнасцей Украіны (пачынаючы ад прадстаўнікоў тытульнага этнасу — ук-

раінцаў і завяршаючы балгарскай этнічнай меншасцю). Акрамя таго, у кнізе асвятляюцца пытанні гісторыі засялення, гаспадарчых і культурных заняткаў, дэмаграфічнага стану, адукацыйнага ўзроўню найбольш шматлікіх нацыянальных супольнасцей Украіны. Асаблівая ўвага надаецца аналізу этнадэмаграфічных працэсаў на Украіне на працягу чатырох апошніх дзесяцігоддзяў, прыводзіцца шмат статыстычных дадзеных, спасылак на архіўныя і апублікаваныя крыніцы.

У манаграфіі разглядаюцца этнадэмаграфічныя працэсы ў прадстаўнікоў 17 буйнейшых нацыянальных супольнасцей сучаснай Украіны. Сярод іх беларусы па колькасці насельніцтва займаюць чацвёртае месца пасля ўкраінцаў, рускіх і яўрэяў. Большасць прадстаўнікоў беларускага этнасу з'явілася тут у XX ст., найперш пасля Другой сусветнай вайны. Аўтар кнігі адзначае, што ў 1989 г. колькасць беларусаў на Украіне складала 440 тыс.чал., або 0,9 % насельніцтва рэспублікі. У параўнанні з 1926 г. іх колькасць павялічылася больш чым у пяць разоў. Такое значнае павелічэнне беларускага насельніцтва даследчыца тлумачыць найперш тым, што ўзровень нараджальнасці ў беларусаў быў вышэйшы (у параўнанні з іншымі нацыянальнасцямі), а асіміляцыйныя працэсы ў пасляваенныя дзесяцігоддзі закранулі іх у невялікай ступені (с. 62). Аднак частка беларусаў паступова падвяргалася этнічнай асіміляцыі і моўнай акультурацыі, у выніку чаго асобныя беларусы пачалі лічыць сябе ўкраінцамі і прызнаваць сваёй роднай украінскую мову. Некаторыя беларусы па паходжанню засвойвалі рускую мову і адпаведна лічылі сябе расіянамі (рускімі).

Значная колькасць этнічных беларусаў, што пражываюць на тэрыторыі Украінскага Палесся, у беларуска-ўкраінскай этнакантактнай зоне (найперш у Ровенскай вобл.), перасялілася сюды ў канцы XVIII – першай палове XIX ст., пасля падзелаў Рэчы Паспалітай. Асноўныя прычыны гэтых перасяленняў аўтар бачыць у эканамічнай (у першую чаргу маецца на ўвазе малазямелле і беззямелле беларускіх сялян), а таксама ў палітычнай (прымусовыя перасяленні, стварэнне вайсковых гарнізонаў з мэтай абароны паўднёвых раёнаў Расійскай імперыі ад турэцка-татарскіх нападаў) сферах.

У сучасны перыяд беларусы расселены дысперсна і амаль раўнамерна па ўсёй тэрыторыі Украіны (найбольшая іх частка пражывае ў Данецкай вобласці — 17,5 % ад усяго насельніцтва вобласці). Абсалютная большасць украінскіх беларусаў пражывае цяпер у гарадах (каля 80 %), і толькі ў адной Ровенскай вобласці сельскія жыхары сярод беларусаў складаюць звыш паловы (с. 63–64). Дарэчы, беларусы (разам з рускімі, яўрэямі, татарамі, азербайджанцамі і армянамі) уваходзяць, па своеасаблівай класіфікацыі аўтара, у групу тых нацыянальных супольнасцей, якія вядуць пераважна урбанізаваны спосаб жыцця (с. 81). Што ж датычыцца т. зв. "моўнай кампетэнцыі", то тут беларусы уваходзяць у адну групу (з яўрэямі, немцамі і грэкамі), прадстаўнікі якой вызначаюцца сярэднім узроўнем валодання ўкраінскай мовай пры высокай ступені рускамоўнасці і адпаведна нізкім узроўні ведання сваёй роднай мовы (с. 88).

Да станоўчых момантаў праведзенага даследавання можна аднесці, напрыклад, шырокую крыніцазнаўчую базу (архіўныя крыніцы, айчынная і замежная літаратура, матэрыялы сацыялагічных апытанняў, анкетавання, інтэрв'ю), спробы параўнальнага аналізу этнадэмаграфічных працэсаў на Украіне і ў іншых краінах свету, дакладнасць і грунтоўнасць метадычных прыёмаў і да т. п. Бадай што адзіным недахопам рэцэнзуемай кнігі з'яўляецца тое, што апошнія звесткі прыводзяцца па даных перапісу 1989 г., што, зразумела, не дае магчымасці чытачам уявіць асаблівасці этнадэмаграфічных працэсаў на Украіне на працягу 1990-х гг., у гады яе дзяржаўнай незалежнасці. На наш погляд, менавіта ў апошняе дзесяцігоддзе XX ст. у краінах былога СССР адбыліся такія перамены, якія істотна адрозніваліся ад рэалій усіх папярэдніх гадоў. Аднак у цэлым манаграфія напісана на даволі высокім навуковым узроўні, вырашае надзвычай актуальныя праблемы, мае відавочны наватарскі характар і таму з'яўляецца важкім укладам у скарбонку ўкраінскай гуманітарнай навукі.

***Эдуард Дубянецкі**, кандыдат гістарычных навук*

## ВЯРТАННЕ ДА СВАІХ: СТАНІСЛАЎ ГРЫНКЕВІЧ, ФРАНУК ГРЫШКЕВІЧ, УЛАДЫСЛАЎ КАЗЛОЎШЧЫК / ПРАДМОВА, УКЛАДАННЕ І КАМЕНТАРЫІ СЯРГЕЯ ЧЫГРЫНА. БЕЛАСТОК, 1999. 190 с.

Як відаць з назвы, кніга складаецца з трох частак. У іх змешчаны творы С. Грынкевіча, Ф. Грышкевіча і У. Казлоўшчыка. Тры падобныя ў сваім трагізме постаці — усе яны родам з Беласточчыны, усіх напаткаў амаль аднолькавы лёс, усе трое былі доўгі час забыты, выкраслены з літаратурнага працэсу.

Прыгледзімся ж бліжэй да трох роднасных і адначасова розных творчых індывідуальнасцей.

С. Грынкевіч скончыў медыцынскі універсітэт. Працаваў у клініцы, пасля ў псіхіятрычнай бальніцы. Адначасова вёў лабараторныя доследы і пісаў навуковыя працы. Займаўся і перакладчыцкай дзейнасцю: перакладаў на беларускую медыцынскія працы, а таксама рэлігійныя творы. Акрамя таго, займаўся літаратурай, пісаў п'есы, у якіх расказваў пра жыццё і справы беларускіх вяскоўцаў. С. Грынкевіча арыштавала савецкая контрразведка, і ў 1945 г. ён быў расстраляны пад Магілёвам.

Падобным чынам абарвалася жыццё і Ф. Грышкевіча. Ён быў арыштаваны ў канцы 1944 г. органамі НКУС і пасаджаны ў мінскую турму. Допыты праводзіў сам шэф беларускага НКУС Лаўрэнцій Цанава. Ідучы на чарговы допыт, Ф. Грышкевіч выскачыў праз турэмнае акно і забіўся насмерць.

Ф. Грышкевіч — выдатны педагог. Ён быў прызначаны дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі і выкладаў там сусветную літаратуру. Вучні яго паважалі, бо ўрокі былі цікавымі і змястоўнымі. Але Грышкевіч — не толькі педагог, але і паэт. Першыя яго вершы былі апублікаваны ў 1924 г. у часопісе "Сту-

дэнцкая думка” і газеце “Крыніца”. Друкаваўся ён таксама ў “Сялянскай ніве”, “Беларускай крыніцы”, “Родных гонях” і ў іншых тагачасных выданнях. У 1927 г. выйшаў з друку яго паэтычны зборнік “Веснавыя мелодыі”. Вершам Ф. Грышкевіча ўласцівы тонкі лірызм і філасафічнасць. Ён неаднойчы прысягаў на вернасць свайму народу:

З Народу выйшлі і ў Народ…
Мы пойдзем, поўны веры…
З народам пойдзем мы ўпярод,
Як верныя жаўнеры.
*(“З народу мы…”)*




Акрамя вершаў Ф. Грышкевіч пісаў і прозу. У 1927 г. у “Беларускай крыніцы” былі апублікаваны яго апавяданні “Святы Сільвестр”, “Куцця ў чужыне” і “У калядны вечар”. Выступаў у друку і як крытык, напісаў цікавыя рэцэнзіі на кнігі Н. Арсенневай, М. Багдановіча, Я. Коласа, К. Чорнага і інш., а таксама перакладаў з польскай, чэшскай, славенскай, украінскай і нямецкай моваў на беларускую.

У. Казлоўшчык — рэдактар падакупацыйнай “Беларускай газэты”, быў забіты ў Мінску ў сваім кабінеце падпольшчыкамі-партызанамі. Ён пісаў вершы і празаічныя творы, адрасаваныя пераважна беларускай моладзі. Яго творчасць мела супярэчлівы характар. Але ў лепшых вершах У. Казлоўшчыка гучыць заклік да незалежнасці і адраджэння Беларусі, вера ў Беларусь і беларускі дух.

Творчасць С. Грынкевіча, Ф. Грышкевіча і У. Казлоўшчыка вярнулася на Беларусь, дзеля якой яны жылі, змагаліся і тварылі. Вярнулася, дзякуючы старанням складальніка, аўтара прадмовы і каментарыяў С. Чыгрына (жыве ў Слоніме), рэдагаванню В. Лубы (ён жа рэдагуе беластоцкую “Ніву”) і выдавецкім клопатам Беларускага саюза ў Рэчы Паспалітай.

***Валянціна Грышкевіч**, навуковы супрацоўнік Цэнтра імя Ф. Скарыны*



## У НЕКАЛЬКІ РАДКОЎ

5 снежня ў Цэнтры імя Ф. Скарыны адбыліся гістарычныя чытанні “Мінулае, сучаснае і будучыня рыцарства Беларусі”. Яе ўдзельнікі зрабілі экскурсію па абноўленай музейнай экспазіцыі “Беларусы ў свеце”.

## Б. А. ПЛОТНІКАЎ. БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў СІСТЭМЕ СЛАВЯНСКІХ МОЎ: ВУЧЭБНЫ ДАПАМОЖНІК. Мн., 1999. 119 с.

Беларуская мова ў параўнальным плане айчыннымі лінгвістамі разглядалася перадусім у адносінах да блізкароднасных усходнеславянскіх моваў (працы У. Анічэнкі, М. Булахава, М. Гурскага і інш.). Кніга вядомага беларускага мовазнаўцы прафесара Б. Плотнікава з'яўляецца першым супастаўляльным даследаваннем беларускай мовы і іншых роднасных моваў у славянскай лінгвістыцы, бо ў дачыненні да кожнай асобнай мовы такія параўнальныя апісанні яшчэ не зроблены. Аўтар выразна паказаў месца беларускай мовы сярод іншых славянскіх моваў па ўсіх параметрах лінгвістычнага аналізу (фанетычных, марфалагічных, сінтаксічных, лексічных, фразеалагічных, семантычных), адметнасць яе гісторыі, якая падзяляецца на два перыяды (старабеларуская літаратурная мова XIV–XVIII стст., новая беларуская літаратурная мова XIX–XX стст.), апісаў яе дыялектнае чляненне і яго адрозненне ад дыялектнага падзелу іншых славянскіх моваў.




Асобай увагі заслугоўваюць параўнанні беларускай мовы з іншымі славянскімі мовамі ў галіне лексікі, зробленыя і паказаныя на матэрыяле канкрэтнай тэматычнай групы тэмпаральных слоў. Прапанаваныя аўтарам структурныя лексічныя мадэлі могуць быць выкарыстаны для тыпалагічнага даследавання славянскіх моваў на матэрыяле іншых тэматычных груп і лексікі ў цэлым.

Адзначым, што выдзеленыя лексічныя асаблівасці з'яўляюцца новымі і цікавымі, бо характарызуюць сістэмнасць беларускай і іншаславянскай лексікі і з прадметнага, і з лагічнага, і з асацыятыўнага, і з унутрымоўнага пунктаў гледжання.

У падручніку сцісла, але змястоўна апісаны галоўныя фанетычныя і граматычныя рысы падабенства і адрознення беларускай мовы і кожнай іншай славянскай мовы, а таксама іх груп (усходнеславянскай, заходнеславянскай, паўднёваславянскай). Так, у раздзеле "Беларуская мова сярод усходнеславянскіх моў" на багатым ілюстрацыйным матэрыяле адзначаны разыходжанні, якія існуюць паміж блізкароднаснымі беларускай і рускай, беларускай і ўкраінскай мовамі. У раздзеле "Беларуская мова ў адносінах да заходнеславянскіх моў" лаканічна разглядаюцца найперш фанетычныя і граматычныя адрозненні беларускай мовы ад польскай, чэшскай, славацкай, сербалужыцкай моваў. У наступнай частцы кнігі — "Беларуская мова ў адносінах да паўднёваславянскіх моў"

— паказаны лінгвістычныя адрозненні беларускай мовы ад балгарскай, македонскай, сербскахарвацкай, славенскай.

Трэба адзначыць, што апісаныя лінгвістычныя рысы беларускай мовы ахарактарызаваны ў працы з рознай глыбінёй: больш увагі надаецца, у прыватнасці, лексічным, фанетычным і марфалагічным асаблівасцям і значна менш – фразеалагічнай адметнасці беларускай мовы. Такім чынам, надта эскізнай атрымалася характарыстыка такой важнай часткі мовы, як фразеалогія, прынамсі, у параўнанні з іншымі часткамі мовы, напрыклад, лексікай.

Самастойную вучэбную і навуковую каштоўнасць маюць сфармуляваныя ў працы знешнія фактары абмежаванага выкарыстання беларускай мовы (адсутнасць дзяржаўнай самастойнасці, палітыка суседніх дзяржаў, канфесійны падзел беларусаў і інш.) і ўнутраныя (страта пераемнасці ў развіцці мовы, моцны ўплыў суседніх моваў, запозненыя граматычныя апісанні і інш.) у грамадскім жыцці краіны ў канцы XX ст. Улік адзначаных фактараў дапаможа чытачам падручніка і навучэнцам больш свядома і мэтанакіравана выпраўляць тыя хібы нашых папярэднікаў, якія дапушчаны пры вызначэнні ролі беларускай мовы найперш як непаўторнага сродку сваёй самаідэнтыфікацыі і самавыражэння.

Прааналізаваныя і абагульненыя факты, а таксама тэарэтычныя палажэнні і вывады падаюцца ў кнізе з улікам багатай навуковай літаратуры па тэме даследавання.

У цэлым прыведзеныя аўтарам назіранні і высновы ўяўляюцца карыснымі і каштоўнымі для кожнага славіста і беларусіста, бо вылучаныя лінгвістычныя рысы беларускай мовы служаць не толькі дыферэнцыяльным арыенцірам, але і складаюць у комплексе непаўторны і адметны партрэт беларускай мовы. Выказваю ўпэўненасць, што праца прафесара Б. Плотнікава стане неабходнай для ўсіх, хто вывучае беларускую мову, выкладае яе і хто ёй цікавіцца.

***Валянціна Трайкоўская**, кандыдат філалагічных навук, дацэнт*

## ALEŚ BARSKI. NOSTALGIE. BIAŁYSTOK, 1999. 45 s.

Беларускаму чытачу добра вядома імя прафесара, загадчыка кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, ганаровага доктара Беларускага дзяржаўнага універсітэта, прэзідэнта Польскай асацыяцыі беларусістаў Аляксандра Баршчэўскага (літ. псеўданім Алесь Барскі). Беларускі паэт, перакладчык, член Саюза польскіх пісьменнікаў, ён з’яўляецца аўтарам многіх паэтычных зборнікаў, выдадзеных у Мінску і Беластоку. Алесь Барскі жыве ў Польшчы, піша па-беларуску — на мове “свайго дзяцінства”, чым, на думку некаторых польскіх даследчыкаў, асуджае сябе на адзіноцтва. Па словах жа самога паэта:

І чую, што я
Не чужы
На гэтай зямлі
Шырокай,
Няма ў маім сэрцы мяжы,
Я родны тут,
Не адзінокі.

Лірыка Алеся Барскага прыйшла, нарэшце, да польскага чытача. У гэтым годзе ў Беластоку выйшаў яго паэтычны зборнік пад сімвалічнай назвай “Настальгія”. На польскую мову вершы пераклаў Чэслаў Сэнюх. Дасканалае валоданне польскай і беларускай мовамі, веданне нацыянальных паэтычных традыцый абодвух народаў далі магчымасць перакладчыку, на чыім творчым рахунку — пераклады Я. Купалы, Я. Коласа, У. Караткевіча, максімальна наблізіцца да гучання арыгінала. Невялікая (каля 30 вершаў з папярэдніх зборнікаў), стрымана аформленая кніга, безумоўна, прыцягне ўвагу чытача сваёй тэматыкай, жанравай разнастайнасцю, арыгінальнасцю мастацкіх сродкаў.




Як жа ўспрыме польскі чытач споведзь паэта? Ці зможа суперажываць думкам лірычнага героя, звернутым ва ўспаміны, мары і сны? Настальгічныя матывы гучаць у вершах рознай тэматыкі. Многія з іх — гэта падарожжа ў мінулае, у “страчаны рай” дзяцінства і маладосці:

Nad doliną Narwi stoi cisza
I ja stoję bytem w nią wtopiony.
I jak w śnie dalekim znowu słyszę
Pieśń młodości mojej. Już minionej.

Але не сентыментальнае шкадаванне аб пражытых гадах і не жаданне таго, каб усё выглядала, як раней, дамінуе ў паэзіі А. Барскага. Мінулае — гэта хутчэй крыніца, дзе чэрпае творчае натхненне паэт, “фундамент” вершаў, у рэшце рэшт — норма, крытэрый сённяшняга.

Białowieżo!
Ty mój oceanie!
Pióro w tobie zanurzam jak wiosło
i żegluję z miasta na wioskę —
na mój sierpień słów,
na słowobranie.

Паэт звяртаецца да родных мясцін, мілых сэрцу краявідаў, толькі там знаходзячы сабе палёгку і суцяшэнне:

O lesie!
Dobry mój lekarzu
Odwieczny,
Jak ten bór sosnowy!
Za darmo
Troską mnię obdarzasz
I leczysz
Śpiewną swoją mową.

Паэтычныя творы Алеся Барскага адметныя сваёй асацыятыўнай вобразнасцю, заснаванай на багацці стылістыкі. Для дасягнення выразнасці, эмацыянальнасці паэт карыстаецца рознымі тропамі, разнастайнымі страфічнымі формамі верша. Вельмі ўдалымі можна лічыць малыя формы, прасякнутыя філасофскім роздумам. У першую чаргу гэта — класічны трыялет:

Kukułeczka szczęście mi kukała,
lecz nie bardzo dawałem jej wiary:
w życiu wciąż spotykam smutek szary.
Kukułeczka szczęście mi kukała,
lecz się pomyliła, wróżka mała,
nie jest to kukanie szczęścia miarą.
Kukułeczka szczęście mi kukała,
lecz nie bardzo dawałem jej wiary.

Элегічныя вершы паэта, дзе вобраз Беларусі атаясамліваецца з вобразам маці, — у адной плыні з лірыкай Максіма Багдановіча. “Настальгія” быццам працягвае незакончаную песню аўтара “Вянка”. Багдановічаўскі васілёк — сімвал вернасці роднай бацькаўшчыне — цудоўным чынам увасабляецца ў адным з вершаў:

Jak tylko na żyta
z kwiecistej chuściny
wysieje bławatki
dłoń Białorusi,
zawołaj, matulu,
cichutko do syna.

“Для таго, каб была родзіна, то трэба, каб была зямля і людзі”, — сказаныя бацькам Алеся Барскага словы мелі для паэта важнае значэнне. Лірычны герой паэта — сын сваёй зямлі. “Czy nie pokłoni się // Chłopski syn // Przed chlebem?” У вершах яскрава гучаць антыурбаністычныя матывы. Думкамі паэт заўсёды на роднай зямлі. Узнікае пачуццё векавечнай віны перад ёй, нават — здрады.

Нягледзячы на пераважаючыя ў кнізе настальгічныя матывы, Алесь Барскі — паэт сучаснасці, які імкнецца існаваць у трох вымярэннях: мінулым, сучасным і будучым. Яго неадольнае жаданне вярнуцца на зямлю Бацькоў ёсць не што

іншае, як зварот да сваіх каранёў, да разумення сутнасці дзён сённяшніх, перажыванне і адказнасць за будучае. Тут ужо не настальгія па страчанаму, а занепакоенасць сучасным. Неяк па асацыяцыі на памяць прыходзяць радкі з верша А. Вазнясенскага “Настальгія па сапраўднаму”, напісанага ў сярэдзіне 70-х: “Что прошло, то прошло. К лучшему. // Но прикусываю как тайну // ностальгию по настоящему…” Алесь Барскі вельмі непакоіцца за беларушчыну, захаванне традыцый беларускай зямлі і продкаў, імкнецца абараніць іх, як казаў у адным з інтэрв’ю, галоўным чынам перад самімі беларусамі. Востра і актуальна гучаць радкі:

Gdyby obrywali ze mnie kwiaty,
milczałbym,
gdyby obrywali ze mnie liście,
milczałbym,
gdyby palili moje gałęzie,
milczałbym,
lecz kiedy moją mowę
wyrywają z korzeniami,
wyję z bólu.

Адчуванне глыбокай прывязанасці да бацькоўскай зямлі, цёплай любові да маці зліваюцца ў адзінае рэчышча пачуццяў і знаходзяць свой лагічны працяг у вершах пра каханне. У іх — пакланенне перад Жанчынай, вобраз якой служыць для паэта адвечнай крыніцай творчага натхнення:

A te wierszy o tobie
Nazwałem nostalgiami.
One ze słów bezsennych
O północy.
To hymny wierności,
Które tęsknota śpiewa.

***Ірына Тамільчык**, супрацоўніца Цэнтра імя Ф. Скарыны*

## СРЭБНЫ ДОЖДЖ: ПЕРАКЛАДЫ З АНГЛАМОЎНАЙ ПАЭЗІІ АЛЕНЫ ТАБОЛІЧ. Мн., 1999. 111 с.

З замілаваннем гартаю маленькую прывабную кніжачку, выдадзеную “Беларускім кнігазборам”, у шэра-блакітнай вокладцы з выявай сярэдневяковага замка. У ёй — вершы англамоўных паэтаў і іх пераклады на беларускую мову. Вершы Тэнісана, Вордсварта, Лангфела, Лэнгстона Х’юза і яшчэ дваццаці паэтаў Вялікабрытаніі і ЗША пераклала Алена Таболіч. Выкладаючы ў лінгвістычным універсітэце, яна шмат робіць, каб далучыць сваіх студэнтаў да цудоўнага свету паэзіі, каб абудзіць у іх творчую іскрынку. Большасць з пяцідзесяці твораў, якія складаюць зборнік “Срэбны дождж”, — якраз тыя, па якіх Алена Таболіч

вучыць студэнтаў англійскай мове, паэтычнаму перакладу. Некаторыя з яе перакладаў ужо друкаваліся ў перыядычным друку, а цяпер вось выйшлі асобнай кніжкай.

У зборніку прадстаўлены як хрэстаматыйныя, добра вядомыя творы (“Я сэрцам у гарах” Бёрнса, урыўкі з п’ес Шэкспіра і г. д.), так і вершы менш папулярных аўтараў (Лоры Лі, Эйдрыян Хенры і інш.).

Параўноўваючы пераклады з арыгіналамі, бачыш тыя цяжкасці, з якімі, мусіць, сутыкаецца кожны перакладчык з англійскай мовы. Адна з іх — розная даўжыня англійскіх і беларускіх слоў. Гэта прымушала перакладчыцу ўжываць словы-вобразы, якія, хутчэй, характэрныя для нашай рэчаіснасці, чым англійскай або амерыканскай. А жаданне захаваць метрыку арыгінала па той жа прычыне прыводзіла часам да змянення танальнасці верша.

Большасць вершаў, аднак, перакладзена вельмі ўдала. Многія з перакладаў — такія, як “Эпілог” да рамана Р. Олдынгтона “Смерць героя”, “Нарцыскі” У. Вордсварта, “Сад закаханых” У. Блэйка і многія іншыя — заслугоўваюць заслужанага месца ў “Анталогіі англійскай літаратуры”, выданне якой плануецца ў “Беларускім кнігазборы”.

“Срэбны дождж” — безумоўна адметная падзея ў нашым культурным жыцці і ў развіцці міжнацыянальных літаратурных зносін паміж Беларуссю, Вялікабрытаніяй і ЗША.

***Вольга Судлянкова**, прафесар Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта*

## КРОКІ “УЗДЫМА”. ДАЎГАЎПІЛС, 1999. 32 с.

З новай кнігі Беларускага культурна-асветніцкага таварыства “Уздым” чытач можа даведацца не толькі пра сённяшні стан спраў латвійскіх беларусаў. Тут прадстаўлена гісторыя стварэння “Уздыма”, прыведзены асноўныя звесткі пра кіраўнікоў арганізацыі, можна прагледзець і багаты фоталетапіс суполкі.

“Уздым” лічыць сябе правапераемнікам Беларускага культурна-асветніцкага таварыства “Бацькаўшчына”, якое было створана ў г. Даўгаўпілсе (Дзвінску) у 1921 г. Прыведзены красамоўныя факты пра багатае і разнастайнае грамадскае жыццё беларусаў Латгаліі і Даўгаўпілса: у 20-я гг. тут працавалі беларускія

школы і гімназіі, выходзілі беларускія газеты і часопісы, дзейнічалі беларускія тэатры. Згадваюцца імёны Івана Красоўскага, Сяргея Сахарава, Кастуся Езавітава, Міколы Дзямідава, Паўліны Мядзёлкі і іншых дзеячаў культуры ў Латгаліі.

Новая хваля беларускага руху ўзнялася ў Латгаліі толькі ў 1991 г., калі ў Даўгаўпілсе было створана Балта-славянскае таварыства. У 1993 г. быў зарэгістраваны як грамадская арганізацыя "Уздым". З гэтага часу пачынаецца шматбаковая дзейнасць таварыства. Гэта і ўдзел у навукова-практычных канферэнцыях, з'ездах беларусаў свету, у адкрыцці Генеральнага консульства Беларусі ў Даўгаўпілсе, дзейнасць беларускай нядзельнай школкі. У 1995 г. у мясцовай газеце "Латгалес Лайкс" з'явілася першая старонка "Беларус Латгаліі", дзе друкуюцца звесткі з радзімы і беларускага замежжа, матэрыялы па гісторыі Беларусі і інш. Агульнымі намаганнямі сяброў "Уздыма", супрацоўнікаў Генеральнага консульства Беларусі ў Даўгаўпілсе былі падрыхтаваны і праведзены Дні беларускай культуры. А галоўная задача сённяшняга дня — стварэнне Цэнтра беларускай культуры ў Даўгаўпілсе.




Другі раздзел кнігі — "Звесткі аб кіраўніках "Уздыма" — дапамагае чытачу больш падрабязна даведацца пра найбольш актыўных дзеячаў аб'яднання. Гэта Канстанцін Капуста, Мікола Паўловіч, Зінаіда Дзегцярэнка, Станіслаў Валодзька, Таццяна Бучэль. Апошняя з 1998 г. з'яўляецца старшынёй "Уздыма".

Кніга ілюстравана фотаздымкамі, якія даюць уяўленне пра грамадскае і культурне жыццё беларускай дыяспары ў горадзе, дзе яна мае багатыя традыцыі.

Укладальнік і рэдактар выдання паэт Станіслаў Валодзька імкнуўся поўна і markdown разнабакова паказаць жыццё беларусаў Латвіі. У сваім вершы "Уздым" ён выказвае надзею, што здабыткі духоўнага жыцця беларусаў Латвіі стануць часткай агульнанацыянальнай культуры:

Як сцяг, свой шлях трымаць заўжды,
Нам трэба жыць насустрач Богу, —
Асіліць пад гару дарогу!
Сінонім адраджэння —
Уздым!

***Алеся Белавусава**, супрацоўніца Цэнтра імя Ф. Скарыны*

## АЛЕСЬ КАРЛЮКЕВІЧ. ЛІТАРАТУРНАЯ КАРТА ПУХАЎШЧЫНЫ: КРАЯЗНАЎЧЫ НАРЫС. Мн., 1999. 48 с.

У 1999 г. выдавецкай групай “Тэхнапрынт” выдадзены краязнаўчы нарыс “Літаратурная карта Пухаўшчыны”. Яе аўтар, Алесь Карлюкевіч, — галоўны рэдактар “Чырвонай змены”, журналіст, краязнавец, былы вайсковец. Ён добра вядомы ўважлівым чытачам па кнігах і шматлікіх публікацыях, прысвечаных — куды б яго ні закідваў лёс — менавіта Беларусі, яе людзям. Аўтар, як сам ён піша пра сябе ў невялікім уступе, — той самы кулік, што хваліць сваю старонку, родную Пухаўшчыну. На гэты раз у сціслым і вельмі змястоўным, багатым на фактычны матэрыял нарысе А. Карлюкевіч расказвае пра літаратурныя мясціны Пухаўшчыны, пра літаратараў, чый лёс так ці інакш быў звязаны з гэтым, сапраўды багатым на таленты, краем.




Адсюль, з Пухаўшчыны, ідуць бачныя і нябачныя ніткі-сувязі ў розныя краіны свету. Так, Дукорскі палац, пабудаваны Л. Оштарпам, у свой час маляваў Напалеон Орда (літаграфія з яго малюнка змешчана сярод 260 графічных аркушаў альбома, выдадзенага ў Варшаве ў 80-я гг. XIX ст.). У Дудзічах нарадзіліся браты Ельскія: Міхаіл — вядомы скрыпач, кампазітар і музыказнавец і Аляксандр — гісторык, этнограф, публіцыст, нястомны збіральнік памятак беларускай духоўнай спадчыны, першы біёграф В. Дуніна-Марцінкевіча, аўтар больш за 10 тысяч (!) гісторыка-краязнаўчых артыкулаў пра Беларусь для польскіх энцыклапедый. Іх імёны належаць беларускай і польскай культурам. У мястэчку Турыне, па некаторых звестках, нарадзіўся вядомы ў свеце прыродазнавец і медык Якуб Наркевіч-Ёдка. У мястэчку Блонь знаходзіўся маёнтак, гаспадаром якога быў рэвалюцыянер-народнік з багатай біяграфіяй Анатоль Бонч-Асмалоўскі. Ён арганізаваў у сваім маёнтку сялянскі гурток самаадукацыі, адным з настаўнікаў якога быў малады Адам Багдановіч, бацька будучага класіка беларускай літаратуры. Магчыма, менавіта на Пухаўшчыне А. Багдановіч і распачаў сваю дзейнасць як вядомы потым у Расіі этнограф.

У кароткім водгуку даволі цяжка пералічыць імёны ўсіх беларускіх, рускіх, габрэйскіх пісьменнікаў, чые карані ідуць з Пухавіцкай зямлі, ці тых, што працавалі тут настаўнікамі ды журналістамі. Гэта краязнавец, лексікограф і мастацтвазнавец М. Каспяровіч, да 100-гадовага юбілею якога ў 2000 г. рыхтуецца навуковая грамадскасць. Гэта паэты і празаікі М. Чарот і У. Хадыка, А. Вольны і С. Хурсік, А. Моркаўка і Х. Шынклер, А. Пальчэўскі, М. Паслядовіч, Я. Непа-

чаловіч, З. Бірала, якіх так ці інакш не абышоў малох 30-х гг. Гэта драматург В. Гарбацэвіч, літаратурны крытык Ш. Нігер (Чарны), вучоныя-мовазнаўцы М. Жыдовіч і да таго ж празаік М. Лобан і яшчэ шмат вядомых у літаратурным свеце імёнаў — такіх, як А. Бялевіч, С. Кухараў, Г. Кляўко, П. Рунец, Т. Бондар, В. Мыслівец і …

Нельга не адзначыць адзін адметны штрых у даследчыцкім почырку А. Карлюкевіча — ён з не меншай увагай і павагай, чым да знакамітасцей, ставіцца да людзей, чые імёны, магчыма, ніколі не будуць шырокавядомымі, але і гэтым культурным дзеячам аддаецца належнае. Аўтар з той жа зацікаўленасцю піша пра дырэктара краязнаўчага музея ў былым маёнтку Бонч-Асмалоўскіх, апантанага збіральніка гістарычнай памяці А. Прановіча, журналіста і краязнаўца А. Ярохіна, настаўніка і публіцыста І. Падбярэжскага. Не можа не крануць і расказ пра жыхарку Матарова Надзею Крайко, якая беражліва захавала праз нялёгкія дзесяцігоддзі альбом з фотаздымкамі незнаёмых хлопцаў з Мінска, што ў гарачыя чэрвеньскія дні 1941 г. начавалі ў яе хаце і пакінулі самую дарагую рэч — фатаграфіі сваіх сяброў-літаратараў. Тымі хлопцамі былі два Міколы — Сурначоў і Аўрамчык. Першы не вярнуўся жывым, лёс другога быў празмерна багаты на жорсткія выпрабаванні.

Невялікі, сціплы краязнаўчы нарыс… Але колькі дае ён цікавай інфармацыі ўважліваму чытачу.

***Наталля Давыдзенка**, супрацоўніца Цэнтра імя Ф. Скарыны*

## НАДРУКАВАНА ПРА КАНТАКТЫ Ў БЕЛАРУСІ І Ў СВЕЦЕ

У падрыхтоўцы бібліяграфіі ўдзельнічалі:

***Моніка Банькоўскі-Цюліг** (Швейцарыя), **Венета Георгіева** (Балгарыя), **Валянціна Грышкевіч**, **Раіса Жук-Грышкевіч** (Канада), **Мікалай Ількевіч** (Расія), **Адам Мальдзіс**, **Таццяна Махнач**, **Таццяна Пятровіч**, **Міхал Швэдзюк** (Вялікабрытанія), **Валерый Шышанаў**, **Сакрат Яновіч** (Польшча).*

Частка па беларускаму друку ў гэтым нумары скарочана. Бібліяграфія па Ізраілю складзена з дапамогай Пасольства Беларусі ў гэтай краіне.

Перавага пры складанні бібліяграфіі аддаецца кніжным і часопісным публікацыям. З публікацыямі пра ўзаемасувязі, змешчанымі ў газетах, можна пазнаёміцца ў Банку інфармацыі Цэнтра імя Ф. Скарыны.

### БАЛГАРЫЯ

**Етносът** има нужда от море: (Интервю с беларуския писател Васил Биков по случай 75-годишнината му) / Превод и бележка Венета Георгиева // Български писател. 1999. 26 окт.

**За да чуеш** нещо ново, трябва да запиташ поновому: Светлана Алексиевич по време на фестивала Изток-Запад в град Ди — Южна Франция // P. S. 1999. № 1. С. 18–21.

**От първо** лице. Не чакайте разкол! (Трима млади поети за проблемите пред Съюза на писателите и самите писатели в Беларус) // Литературен форум. 1999. 19–25 окт.

**По божиите** и човешките закони писателят трябва да живее у дома: (Интервю с беларуския писател в емиграция Васил Биков за 75-годишнината му) / Прев. от беларуски // Литературен форум. 1999. 19–25 окт.

## • БЕЛАРУСЬ – Агульныя пытанні

**А. М.** Дзеля блізкіх і прышласці: [Пра Міжнар. канферэнцыю “Універсітэты Ельскіх”] // Літ. і мастацтва. 1999. 15 кастр.

**Антонович И. И.** Цивилизация модернизма и постмодернизма // Беларусь – Бельгия: диалог культур. Минск, 13–14 ноября 1998 г. Минск, 1998. С. 4–8.

**Баброўнік Наталля.** Падарожжа па сярэдневяковых гарадах Заходняй Еўропы (VI клас) // Бел. гіст. часоп. 1999. № 3. С. 69–79.

**Бажэнава Вольга.** Тыпалогія ілюзіяністычнага жывапісу ў касцёлах Мінскай дыяцэзіі 2-й паловы XVIII — першай паловы XIX стагоддзя: [Разглядаюцца заходнееўрапейскія ўплывы] // Наша вера. 1999. № 2. С. 34–40.

**Бушуева Н. А.** Древнеславянская философия: проблема начала и сущности // Чалавек. Грамадства. Свет. 1999. № 3. С. 83–94.

**Бягініна Л. І.** Асаблівасці семантычнага “засваення” стараславянізмаў у беларускіх і некаторых іншых усходнеславянскіх гаворках // Весн. Бел. дзярж. ун-та: Сер. 4. 1999. № 2. С. 35–38.

**Ваніцкі Арсен.** Адценні жыцця: Урыўкі з главы “У імя будучага”: [Пра работу Беларускага таварыства дружбы] // Голас Радзімы. 1999. 9 верас.

**Василевская И. В.** Особенности представлений о смерти в античной философии // Весн. Бел. дзярж. ун-та: Сер. 3. 1999. № 2. С. 36–40.

**Глузман А. В.** Тенденции развития университетского педагогического образования за рубежом // Адукацыя і выхаванне. 1999. № 10. С. 43–48.

**Гуцева Т. Г.** Диалог культур — условие будущего // Беларусь – Бельгия: диалог культур. Минск, 13–14 ноября 1998 г. Минск, 1998. С. 62–68.

**Дабралюбаў А. І., Маргун Н. В., Раковіч А. Г.** Новы адмоўны слоўнік тыпу INSITU для вывучэння замежных моў // Вес. НАН Беларусі: Сер. гуманіт. навук. 1999. № 3. С. 131–133.

**Дзітлава В., Лагвіненка Н.** Беларускія выданні за мяжой // Веды. 1999. 29 кастр.

**Жлутка Алесь.** Заходняе хрысціянства на Беларусі: Да Юбілею 2000 года // Наша вера. 1999. № 2. С. 25–33.

**Іофе Э. Р.** Забеспячэнне правоў нацыянальных меншасцей у Беларусі // Нар. асвета. 1999. № 10. С. 44–47.

**Кажурына Т. А.** З гісторыі картаграфавання семантычнага поля “адзенне” ва ўсходнеславянскіх мовах // Весн. Бел. дзярж. ун-та: Сер. 4. 1999. № 2. С. 56–58.

**Кларин М. В.** Инновации в мировой педагогике: обучение на основе исследования, игры и дискуссии: (Анализ зарубежного опыта) // Адукацыя і выхаванне. 1999. № 10. С. 58–68.

**Копанев П. И.** О билатеральных исследованиях // Беларусь – Бельгия: диалог культур. Минск, 13–14 ноября 1998 г. Минск, 1998. С. 129–133.

**Крывашэй Дзмітрый.** У пошуках гарманізацыі культурных уплываў [Беларусі з Цэнтр. і Зах. Еўропай] // Бел. думка. 1999. № 9. С. 72–76.

**Левяш И. А.** Единая Европа: “единосущее” или “одинаковость”? (культурно-цивилизационное измерение) // Беларусь – Бельгия: диалог культур. Минск, 1998. С. 26–35.

**Легчилин А. А.** Диалог диалектик в европейской культуре XIX–XX вв. // Беларусь – Бельгия: диалог культур. Минск, 13–14 ноября 1998 г. Минск, 1998. С. 68–71.

**Лецка Яўген.** Мова — душа народа: [Уступ да падборкі вершаў пра мову бел. паэтаў-эмігрантаў] / / Голас Радзімы. 1999. 16 верас.

**Марозаў А. В.** Усходнеславянская фальклярыстыка 20–30-х гг. як своеасаблівая навукова-метадычная сістэма // Весн. Бел. дзярж. ун-та: Сер. 4. 1999. № 2. С. 5–9.

**Марозаў А. У.** Роля антрапалагічнай школы 20–30-х гадоў у даследаванні фальклору ўсходніх славян // Вес. НАН Беларусі: Сер. гуманіт. навук. 1999. № 3. С. 80–83.

**Миненков Г. Я.** Проблема духовных оснований культурной коммуникации в условиях социальной транзитивности // Беларусь – Бельгия: диалог культур. Минск, 13–14 ноября 1998 г. Минск, 1998. С. 16–25.

**Нагаева Галіна.** Цуд жанчыны: [Пра Міжнародны фестываль жаночага кіно ў Мінску] / Пер. з рус. мовы // Мастацтва. 1999. № 9. С. 2–3.

**Нароўская Ала.** “Сонечны квадрат” яднае мастакоў з усяго свету // Голас Радзімы. 1999. 30 верас.

**Прохараў А. А.** Аб міфалагічным падмурку дынастычных паданняў першых славянскіх летапісаў // Весн. Бел. дзярж. ун-та: Сер. 3. 1999. № 2. С. 13–16.

[**Пяцігор Г.** ]. Адукацыйныя ініцыятывы дыяспары: Сёння на старонках нашага выдання аб рабоце беларускамоўных адукацыйных устаноў у краінах былога СССР і суседняй Польшчы расказвае Генадзь Пяцігор / Зап. Разаліі Александровіч // Голас Радзімы. 1999. 14 кастр.

